

“Каб усе былі адно”
(Ян 17, 21)

# Царква

№ 4 (63), 2009
17 сьнежня

БЕЛАРУСКАЯ ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЯ ГАЗЕТА



• НАРАДЖЭНЬНЕ ХРЫСТОВА. Баўгарская ікона канца XVIII ст.



## У нумары:



*“Мінаюць вякі за вякамі. Мінаюць людзі, іхныя думкі і пагляды. А над гэтай хваляй зьменнасьці і нясталасьці гудзіць звон калядны і нясе Праўду і жыцьцё чалавеку вечна старую і вечна новую.*

*А Праўда гэта і Жыцьцё ўсьцяж знаходзіць водгук у людзях добрай волі, у людзях, шчыра іх жадаючых.*

*Дык няхай жа вясёлы звон сяньняшні, нясучы весьць аб Праўдзе і Жыцьці ў закутку цемры і заміраньня, няхай занясе яе ў душу кожнага з нас і ў душу беларускага народу, каб ён абудзіўся і жыў для шчасьця свайго і на славу Бога Найвышэйшага!..”*

*а. Адам СТАНКЕВІЧ. Прамова на Божае Нараджэньне. «Божае Слова» (Львоў-Вільня,1938).*
*(У памяць пра а. А.Станкевіча, у 60-ыя ўгодкі яго адыходу да Госпада 04.12.1949 у сібірскім лагеры).*









# У рэдэмптарыстаў усходняга абраду першы сьвятар-беларус

***У Львове, 25 лістапада 2009 году, у грэка-каталіцкай царкве сьв. Язафата, на патранальнае сьвята мясцовай парафіі, якой апякуюцца манахі Чыну Найсьвяцейшага Адкупіцеля, Данецкі грэка-каталіцкі экзарх біскуп Сьцяпан Мянёк, CSsR рукапаклаў на сьвятара дыякана Антона Нікалаева, які паходзіць з Беларусі, з парафіі сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў Берасьці.***

Разам з ім сьвятарскія сьвячаньні атрымалі таксама два ўкраінскія манахі-рэдэмптарысты: дыяканы Багдан Гялета і Ігар Паўлій. Ва ўрачыстай Боскай Літургіі прынялі ўдзел протаігумен Львоўскай правінцыі Кангрэгацыі Найсьвяцейшага Адкупіцеля а. Васіль Іваніў, правінцыяльны вікарый а. Пётр Баран, CSsR, айцец д-р Рышард Гайдук, CSsR з Польшчы, ігумены і айцы Львоўскай правінцыі Кангрэгацыі, а таксама госьці з Беларусі і розных гарадоў Украіны. З сьвятароў БГКЦ у Львове на сьвячаньнях а. Антона (Нікалаева) прысутнічалі а. Алесь Шаўцоў з парафіі сьв. Язафата ў Полацку і а. Пахом Кавалёў, які служыць у Менску.

У манаскай супольнасьці айцоў-рэдэмптарыстаў усходняга абраду ераманах Антон (Нікалаеў) стаў першым беларускім сьвятаром. Сёньня ў манастыры рэдэмптарыстаў у Львове праходзіць фармацыю яшчэ адзін беларускі грэка-каталік – бр. Зьміцер (Чарнель) з парафіі Маці Божай Фацімскай у Горадні. Блаславёны сьвятамучанік Мікалай Чарнецкі, імя якога носіць адзін з дэканатаў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, таксама быў рэдэмптарыстам. У міжваенны час ён быў Апостальскім візітатарам новаўтвораных каталіцкіх парафіяў славяна-візантыйскага абраду на Валыні, Падляшшы і Палесьсі, а з верасьня 1939-га на працягу году часова выконваў абавязкі кіраўніка Беларускага Экзархату Грэка-Каталіцкай Царквы. 14 сьнежня споўніцца 125 гадоў з дня нараджэньня гэтага мужнага вызнаўцы веры, які 11 гадоў правёў у сібірскіх лагерах.

Кангрэгацыя (Чын) Найсьвяцейшага Адкупіцеля налічвае сёньня 5,5 тыс. членаў у 78 краінах сьвету. Больш за сто гадоў рэдэмптарысты працуюць ва ўсходнім абрадзе. Гэтую працу першымі распачалі бельгійскія манахі сярод эмігрантаў з Усходняй Еўропы ў Канадзе яшчэ ў 1906 годзе, а ў 1913 годзе мітрапаліт А.Шаптыцкі запрасіў іх для місійнага служэньня ў Заходнюю Ўкраіну. Сёньня да Львоўскай правінцыі Чыну належыць каля 130 сьвятароў і братоў, якія жывуць у 11 манастырах на тэрыторыі ўсёй Украіны. 21 лістапада 2009 году адбылося асьвячэньне новага грэка-каталіцкага храму бласл. Мікалая Чарнецкага недалёка ад украінска-беларускай мяжы ў Ковелі Валынскай вобл., дзе працуюць рэдэмптарысты. Да гэтай правінцыі належыць таксама місія ў Расеі, у сібірскім горадзе Пракоп’еўск. Шмат рэдэмптарыстаў усходняга абраду сёньня працуе ў Канадзе і Амерыцы, а таксама ў Славакіі.

У Беларусі рэдэмптарысты працуюць пакуль толькі ў лацінскім абрадзе ў Горадні, у парафіі Найсьвяцейшага Адкупіцеля на Дзевятоўцы. З іх гасьціны карыстаюцца мясцовыя грэка-католікі, якія ў сувязі з будаўнічымі працамі ў сваім душпастырскім цэнтры моляцца сёньня ў капліцы айцоў рэдэмптарыстаў.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

*Фота з сайту: http://cssr.at.ua*



• *Ераманах Антон Нікалаеў, CSsR.*

# Пад Покрывам Багародзіцы

***У кастрычніку распачаўся новы акадэмічны год для семінарыстаў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.***

Стала ўжо традыцыяй, што 1 кастрычніка, у сьвята Покрыва Багародзіцы, вернікі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы моляцца за семінарыстаў.

Сёлета ў гэты дзень нядаўна высьвячаны сьвятар БГКЦ а. Алесь Аўдзяюк прысутнічаў на адкрыцьці новага навучальнага году ў Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Драгічыне (Польшча), дзе калісьці і сам пачынаў навучаньне. Гэта была для яго таксама нагода саслужыць з Высокадастойным Уладыкам Антонам Пацыфікам Дыдычам і перадаць яму падзяку за гасьціну, якую ён дае грэка-каталіцкім семінарыстам з Беларусі. Цяпер у семінарыі ў Драгічыне навучаюцца 2 семінарысты БГКЦ – Зьміцер Бяланаў і Андрэй Русін.

А 3 кастрычніка 2009 году грэка-каталіцкія студэнты, што навучаюцца ў Рыме, маліліся перад цудатворнай іконай Маці Божай Жыровіцкай, якая ўшаноўваецца ў царкве сьв. Сяргея і Вакха ў Вечным Горадзе. Акафіст да Багародзіцы – з просьбай аб малітоўнай падтрымцы – узначаліў Апостальскі Візітатар БГКЦ Архімандрыт Сяргей (Гаек). У новым акадэмічным годзе ў Рыме будзе навучацца 5 студэнтаў БГКЦ.

Семінарысты ва Ўкраіне пачынаюць акадэмічны год раней. Напярэдадні новага навучальнага году, 29 жніўня, Архімандрыт Сяргей маліўся ў Івана-Франкоўску разам з украінскімі грэка-каталіцкімі біскупамі Кір Уладзімірам (Війтышыным) і Кір Сафронам (Мудрым). Візіт Апостальскага Візітатара БГКЦ у Івана-Франкоўск даў таксама магчымасьць абмеркаваць розныя асьпекты супрацоўніцтва, асабліва ў сферы адукацыі. У Івана-Франкоўску ў гэтым годзе праходзіць навучаньне адзін семінарыст БГКЦ – Аляксей Філіпенка.



# Пасланьне Сьвятога Айца Бенядыкта XVI

## Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі падчас іх візіту «ad limina Apostolorum»

*Паважаны спадар кардынал!*
*Шаноўныя браты!*

Я вельмі рады вітаць кожнага з вас у доме Наступніка апостала Пятра, якому Хрыстос даручыў заданьне пасьвіць свой статак *(пар. Ян 21, 15–19)*, умацоўваць братоў у веры *(пар. Лк 22, 31)*, зьберагаць і ўзмацняць царкоўную еднасьць *(Lumen gentium, 22)*. Дзякую спадару біскупу Аляксандру Кашкевічу за прамову, у якой ён паказаў шлях Царквы ў Беларусі, пры гэтым падкрэсьліўшы таксама выклікі, якія чакаюць яе.



Падчас маіх сустрэчаў з вамі я ацаніў пастырскую руплівасьць, з якой вы выконваеце вашае служэньне, вашыя імкненьні і намаганьні, каб усё больш узрастала ўсьведамленьне адзінства і супольнай адказнасьці за рашэньні, а вашае служэньне каб прыносіла яшчэ большы плён. Сапраўды, надзвычай важна з новым энтузіязмам і новымі сіламі абвяшчаць заўжды актуальнае Евангельскае пасланьне ў грамадзтве, якое неабароненае перад пагрозаю секулярызацыі, геданізму і рэлятывізму, азнакаю якіх ёсьць зьмяншэньне нараджальнасьці, нетрываласьць сям’і і існаваньне ілюзіяў пра магчымасьць здабыць шчасьце па-за межамі бацькаўшчыны. Перад такімі выклікамі неадкладнае заданьне пастыраў – паказваць сілу веры, веры, укаранёнай у трывалай традыцыі, каб дапамагчы захаваць глыбокую хрысьціянскую тоеснасьць нацыі, у паважлівым дыялогу з іншымі культурамі і рэлігіямі. Каб дасягнуць гэтай мэты, неабходна, успрымаючы як заклік словы псальму: «Як добра і як міла, калі браты жывуць разам!» *(Пс 133)*, прыкладаць вялікія намаганьні дзеля стварэньня праграмаў і ўдасканаленьня метадаў душпастырскай працы, а таксама дзеля рэалізацыі рашэньняў Канферэнцыі Біскупаў. Такое новае сьведчаньне еднасьці будзе карысным для абвяшчэньня Евангельля, будзе спрыяць наладжваньню стасункаў з дзяржаўнымі ўладамі і прынясе вялікую карысьць экуменічным сувязям.

Яшчэ адзін асьпект, які я хацеў бы падкрэсьліць, – неабходнасьць надаваць асаблівую ўвагу адукацыі ў душпастырскай дзейнасьці. Як я неаднаразова казаў, сёньня мы жывём у свайго роду «надзвычайнай сітуацыі» у гэтай далікатнай і важнай сферы, і неабходна павялічыць намаганьні, каб забясьпечыць грунтоўную фармацыю, у першую чаргу новаму пакаленьню. Таму заахвочваю вас працягваць вашую працу, каб належная катэхетычная адукацыя паказвала шлях веры на ўсіх этапах жыцьця, і каб былі абставіны, *intra ed extra ecclesiali* (унутры і па-за Царквой), у якіх пад вашым кіраўніцтвам пасланьне Хрыста дасягала да кожнага асяродку даручанага вам статку. Асаблівае значэньне набывае клопат пра распазнаньне і разьвіцьцё розных пакліканьняў, асабліва да сьвятарства і манаскага жыцьця, а таксама намаганьньні па падтрымцы праграмаў для чалавечага і хрысьціянскага разьвіцьця моладзі. Таму заклікаю вас асаблівую ўвагу надаваць таму, каб кандыдаты да сьвятарства атрымлівалі грунтоўную і дакладную духоўную і тэалагічную фармацыю і належным чынам кіраваліся ёю, каб сур’ёзна і глыбока праверыць сваё Боскае пакліканьне. Цяперашняя сітуацыя ў нашым грамадзтве патрабуе асабліва ўважлівага распазнаньня пакліканьня. Таму, важна для будучыні вашай Царквы, каб у Горадні і Пінску і надалей маладым семінарыстам маглі прапаноўваць поўны курс фармацыі і кваліфікацыі, і тое, што ў абедзьвюх установах шлях да сьвятарства кандыдаты як у дыяцэзіяльнае, так і ў манаскае духавенства праходзяць поруч, зьяўляецца каштоўнай магчымасьцю для разьвіцьця сумеснай пастырскай дзейнасьці. Такая сітуацыя прынясе яшчэ большы плён, калі прапанаваная адукацыя стане вынікам актыўнага супрацоўніцтва паміж біскупам і старэйшымі манаскіх законаў і дасьць магчымасьць рэалізаваць ідэю бесьперапыннай фармацыі. Будзьце заўсёды блізкія да сваіх сьвятароў, атуляйце іх штораз большым клопатам, асабліва тых, якія распачынаюць пастырскае служэньне. Уважлівы і зычлівы бацькоўскі клопат біскупа – гэта асноўны элемент для посьпеху ў сьвятарскім жыцьці! Варта таксама мець на ўвазе і тое, што Госпад заклікае вас, як пастыраў Царквы, умець распазнаваць кожнае служэньне, якое спрыяе пабудове цела Царквы, у тым ліку сьвецкага, культурнага і сацыяльнага характару, бо ўсе могуць уносіць свой уклад у пашырэньне Божага Валадарства ў Беларусі ў духу сапраўднай і рэальнай еднасьці, вяртаючы ў жыцьцё тыя хрысьціянскія каштоўнасьці, што адыгралі вызначальную ролю ў стварэньні еўрапейскай цывілізацыі.

Дарагія браты, выкарыстоўвайце кожную добрую нагоду для абвяшчэньня і пашырэньня Божага Валадарства, канкрэтнымі справамі даючы сьведчаньне братэрства, якое нараджае супакой; трывайце ў лагоднасьці, якая ёсьць спадарожніцай справядлівасьці; у духу еднасьці, які выключае адасобленасьць, у любові, якая доўгацярплівая, ласкавая; не зайздросьціць, не пыхлівая, не ганарыцца, не зьневажае, не шукае свайго, ня гневаецца, ня памятае зла, ня радуецца несправядлівасьці, але радуецца разам з праўдай, усё зносіць, усяму верыць, на ўсё спадзяецца, усё церпіць дзеля любові Хрыстовае *(пар. 1 Кар 13, 4-7)*. У гэтым кантэксьце вельмі важным зьяўляецца братэрскае супрацоўніцтва з Беларускай Праваслаўнай Царквой, пастыры якой падзяляюць ваш клопат і разам з вамі шукаюць дабра для вернікаў. Праваслаўныя Цэрквы, як і Каталіцкая Царква, грунтоўна разважаюць над тым, як адказваць на выклікі нашага часу, каб верна перадаваць Хрыстова Дабравешчаньне. Прымаючы заахвочаньне, якое было выказана падчас нядаўняй каталіцка-праваслаўнай сустрэчы на Кіпры, мы павінны прыкласьці яшчэ больш намаганьняў на супольным шляху ў гэтым кірунку. Значны ўнёсак у гэтую справу можа зрабіць невялікая, але руплівая грэка-каталіцкая супольнасьць вашай краіны. Яна зьяўляецца важным сьведчаньнем для Царквы і дарам ад Госпада.

Некалькі месяцаў таму я прыняў спадара Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Падчас сустрэчы, якая праходзіла ў атмасферы сардэчнасьці і ўзаемнай павагі, была выказана гатоўнасьць абодвух бакоў заключыць Пагадненьне, якое цяпер распрацоўваецца. Акрамя таго, я падкрэсьліў асаблівую ўвагу, з якою Апостальская Сталіца, а таксама і Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў Беларусі сочаць за падзеямі ў краіне, і запэўніў, што мы гатовыя плённа супрацоўнічаць у пытаньнях, якія ўяўляюць агульны інтарэс, з мэтаю спрыяць дабру грамадзянаў, з павагаю да сфераў кампетэнцыі кожнага.

Шаноўныя браты! Яшчэ раз выказваючы маю падзяку, прашу Маці Божую, якую так глыбока шануюць на вашай зямлі, каб падтрымлівала і абараняла вас сваім заступніцтвам. З такімі пажаданьнямі і з асаблівай любоўю ўдзяляю вам, сьвятарам, манахам і манахіням і ўсім вернікам сваё Апостальскае Блаславеньне і запэўніваю ў сваёй пастаяннай малітве за ўвесь беларускі народ.

*Ватыкан, 17 сьнежня 2009 г.*

# Бенядыкт XVI зьвярнуўся да Патрыярха Барталамея з заклікам аб супольным сьведчаньні веры

***У Апостальскай Сталіцы было апублікавана пасланьне Сьвятога Айца Бенядыкта XVI да Патрыярха Канстанцінопальскага Барталамея, якое абвясьціў падчас візіту ватыканскай дэлегацыі ў Стамбул (Турцыя) старшыня Папскай Рады спрыяньня хрысьціянскай еднасьці кардынал Вальтар Каспэр. Дэлегацыя Апостальскай Сталіцы наведала Стамбул 30 лістапада 2009 году з нагоды сьвята сьв. Андрэя, апостала.***

У пасланьні Пантыфік падкрэсьліў, што супольнае сьведчаньне веры Каталіцкай і Праваслаўнай Царквы зьяўляецца асабліва важным у наш час, калі хрысьціянства сустракаецца з усё больш складанымі праблемамі. Сьвяты Айцец адзначыў, што гэтае сьведчаньне будзе больш дасканалым, калі ўсе тыя, хто верыць у Хрыста, будуць мець «адзінае сэрца і адзіную душу».

У гэтым кантэксьце Папа закрануў тэму каталіцка-праваслаўнага дыялогу, які дасягнуў значнага разьвіцьця на працягу апошняга дзесяцігоддзя. Нягледзячы на тое, што канчатковая мэта яшчэ не дасягнута, аднак, паводле словаў Сьвятога Айца, зроблена ўжо нямала крокаў, якія дазваляюць паглыбіць сувязь паміж абедзьвюма Цэрквамі. Гэтай тэндэнцыі, як адзначана ў пасланьні, не павінна перашкаджаць меркаваньне тых, хто падкрэсьлівае гістарычную розьніцу паміж імі.

Бенядыкт XVI высока ацаніў таксама працу Міжнароднай зьмешанай камісіі па справах тэалагічнага дыялогу, апошняе пасяджэньне якой адбывалася на Кіпры. Папа падкрэсьліў, што ўдзельнікі пасяджэньня выказалі жаданьне працягваць працу, нягледзячы на існуючыя перашкоды і непаразуменьні. Сьвяты Айцец узгадаў пра асноўныя праблемы, што закраналіся падчас пасяджэньня камісіі, дзе разглядалася роля Папы Рымскага ў першым тысячагоддзі хрысьціянства.

«Каталіцкая Царква разумее служэньне сьв. Пятра як дар Госпада для сваёй Царквы, – падкрэсьліваецца ў пасланьні. – Гэтае служэньне нельга інтэрпрэтаваць у перспэктыве ўлады, але выключна ў межах эклезіялагічнай сулучнасьці як служэньня еднасьці ў праўдзе і любові. Біскуп Рыма-Каталіцкай Царквы, які кіруе Царквой у любові, разумеецца як Слуга Слугаў Божых». У гэтым кантэксьце Рымскі Архірэй заахвоціў да пошуку новых формаў, у якіх можа выконвацца служэньне Рымскага Папы.

Акрамя гэтага, у пасланьні была падкрэсьлена важнасьць супрацоўніцтва абедзьвюх Цэркваў, асабліва ў галіне абароны годнасьці чалавечай асобы, ва ўмацаваньні галоўных этычных прынцыпаў, усталяваньні справядлівасьці і спакою ў сьвеце, ліквідацыі голаду, нястачы, неадукаванасьці і несправядлівага падзелу матэрыяльных дабротаў. Сьвяты Айцец падкрэсьліў вялікую ролю Патрыярха Барталамея ў гэтай дзейнасьці, выказаўшы кіраўніку Канстанцінопальскай Праваслаўнай Царквы свае найлепшыя пажаданьні ў дзень сьвята.

*Паводле Catholic.By*

# Усёй Царкве патрэбны досьвед Усходніх Каталіцкіх Цэркваў

***Папа Бенядыкт XVI прыняў патрыярхаў і вярхоўных архібіскупаў Усходніх Каталіцкіх Цэркваў.***

Адказваючы на пажаданьні патрыярхаў ды вярхоўных архібіскупаў Усходніх Каталіцкіх Цэркваў, якія яны неаднаразова выказвалі з розных нагодаў, Яго Сьвятасьць Папа Бенядыкт XVI запрасіў іх на сустрэчу, якая адбылася ў суботу, 19 верасьня 2009 году, у летняй рэзідэнцыі Папы ў Кастэль Гандольфа, недалёка ад Рыму.

У сустрэчы ўдзельнічала 6 патрыярхаў усіх Усходніх Каталіцкіх Цэркваў: Патрыярх Мараніцкай Царквы кардынал П'ер Сфэір, Патрыярх Халдэйскай Каталіцкай Царквы кардынал Эмануэль III Дэльлі, Патрыярх Копцкай Каталіцкай Царквы Антоні Нагіб, Патрыярх Грэка-Мелхіцкай Царквы Рыгор III Лагам, Патрыярх Сірыйскай Каталіцкай Царквы Ігнаці Юсуф III Юнан; Патрыярх Армянскай Каталіцкай Царквы Нэрсэс Бэдрос III Тармуні ды Лацінскі Патрыярх Ерусаліму Фуад Туаль, а таксама 4 вярхоўныя архібіскупы: Першаярарх УГКЦ Яго Блаславенства Любамір (Гузар), Першаярарх Сірыйска-Малабарскай Царквы Варкей Вітхаятхіл, Першаярарх Румынскай Грэка-Каталіцкай Царквы Архібіскуп-Мітрапаліт Луцыян (Мурэшан) ды Першаярарх Сірыйска-Маланкарскай Царквы Базеліяс Моран Мор Кліміс Тоттункал.

Разам з Сьвятым Айцом на сустрэчы прысутнічалі Дзяржаўны Сакратар Сьвятой Сталіцы кардынал Тарчызіё Бэртонэ і кардынал Леанарда Сандры, Прэфэкт Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў, ды іншыя прадстаўнікі ватыканскіх установаў.

Сустрэча распачалася малітвай, пасьля якой выступілі ўсе прысутныя першаярархі Ўсходніх Цэркваў, выказваючы падзяку за гэтую нефармальную, сяброўскую ініцыятыву Сьвятога Айца ды робячы акцэнт на двух асьпектах харызмы сваіх Цэркваў у еднасьці праўды і любові, а менавіта, на вернасьці спадчыне хрысьціянскага Ўсходу ды на сулучнасьці з Папам Рымскім, Наступнікам сьвятога Пятра, Усяленскім Пастырам.

Папа, між іншым, падкрэсьліў, што ўсёй Царкве патрэбны досьвед, які каталіцкія супольнасьці Ўсходу напрацавалі ўжо на працягу першага тысячагоддзя хрысьціянства, асабліва ў экуменічнай і міжрэлігійнай перспэктыве. Ён запэўніў ярархаў, якія прысутнічалі на сустрэчы, што клапоціцца пра разьвіцьцё Цэркваў, якімі яны кіруюць, і пра якія ён заўсёды памятае і моліцца.

Яго Сьвятасьць Бенядыкт XVI нагадаў пра сталы заклік да міру ў Сьвятой Зямлі і на ўсім Блізкім Усходзе і абвясьціў скліканьне Сіноду, які будзе прысьвечаны Каталіцкай Царкве на Блізкім Усходзе ды будзе праходзіць у Ватыкане з 10 па 24 кастрычніка наступнага, 2010 году.

На заканчэньне Бенядыкт XVI удзяліў усім прысутным ярархам ды ўсім Усходнім Каталіцкім Цэрквам Апостальскае благаславеньне.

**Схм. ВІКТОРЫЯ,** *г. Рым*

*Паводле: www.radiovaticana.org/ucr*

# Грэка-каталікі – перашкода?

***Першаярарх УГКЦ Уладыка Любамір (Гузар) пракаментаваў абвінавачаньні ў адрас грэка-каталікоў, выказаныя кіраўніком Аддзелу зьнешніх царкоўных сувязяў РПЦ МП Архіяпіскапам Іларыёнам падчас афіцыйнага візіту ў Ватыкан 17-18 верасьня 2009 году.***

Як заявіў прадстаўнік РПЦ, для таго, каб адбылася сустрэча Патрыярха Кірыла з Папам Бенядыктам XVI, неабходны канкрэтныя крокі для «кардынальнага паляпшэньня сітуацыі ў Заходняй Украіне». Зьверхнік УГКЦ у інтэрв'ю для «Дзеркала тижня» пракаментаваў гэта так: «Калі ёсьць шчырае жаданьне зьбліжэньня, стасункаў, тады ня ставяць умоваў, а сустракаюцца і размаўляюць. А калі вы пачынаеце ставіць умовы «зрабі тое і тое, тады будзем цябе любіць», – дык гэта адсутнасьць шчырага жаданьня размаўляць, адсутнасьць сапраўднай любові». На яго думку, «розьніца паміж палітыкай былога і цяперашняга патрыярхаў Маскоўскіх толькі ў форме – шмат галасу, але нічога новага па сутнасьці не адбываецца». У інтэрв'ю ВВС кардынал Любамір таксама дадаў, што закіды адносна «разгрому» трох праваслаўных япархіяў і захопу храмаў робяцца пастаянна, але ён яшчэ ня чуў, каб хтосьці іх абгрунтавана давёў. «У 1946 годзе Расейская Праваслаўная Царква ў Заходняй Украіне атрымала ад дзяржавы больш за 500 храмаў. Дык ці ж варта казаць, што гэта былі храмы РПЦ?» – растлумачыў Зьверхнік УГКЦ. Паводле яго словаў, падчас выхаду УГКЦ з падпольля здараліся прыкрыя выпадкі, калі грамада разьдзялялася і былі вялікія непаразуменьні. Але гэта ўжо даўно мінула і сёньня практычна няма канфліктных сітуацыяў. «Я ўсё яшчэ чакаю аб'ектыўныя доказы таго, што грэка-каталікі гвалтоўна забралі нейкія храмы або перашкаджаюць будаваць новыя цэрквы», – сказаў Першаярарх УГКЦ Любамір Гузар.



# У Вільні памёр адзіны грэка-каталіцкі сьвятар-беларус

***7 сьнежня 2009 году пасьля аперацыі на сэрцы на 57-ым годзе жыцьця супачыў у Госпадзе а. Ян Даўкшыс – адзіны грэка-каталіцкі сьвятар-беларус, які працаваў у Літве.***



Айцец Ян Даўкшыс паходзіў з каталіцкай сям'і Вацлава і Яніны Даўкшысаў, што жылі на беларуска-літоўскім памежжы. Нарадзіўся ён 19 жніўня 1952 году ў вёсцы Куклі Воранаўскага раёну Гарадзенскай вобласьці. Быў старэйшым сярод чатырох дзяцей у сям'і (меў брата Мар'яна-Тадэвуша і дзьве сястры – Гэлену і Тэрэзу). Пасьля заканчэньня 8 класаў мясцовай сельскай школы пераехаў у Вільню, дзе скончыў школу і стаў малярам-тынкоўшчыкам. У гэты час прыслугоўваў у касьцёле сьв. апосталаў Пятра і Паўла, пазнаёміўся там з ксяндзом прафесарам Кучынскім.

Маючы вялікае жаданьне служыць Богу ў часы, калі ў СССР праводзілася дзяржаўная атэістычная палітыка, быў татальны кантроль і атрымаць дазвол на паступленьне ў каталіцкую семінарыю было ўжо практычна немагчыма, у 1972 годзе Ян Дакшыс паступіў у Ленінградзкую духоўную семінарыю, якой апекаваўся тады вялікі прыхільнік экуменізму і супрацоўніцтва з Каталіцкай Царквой мітрапаліт Нікадзім (Ротаў). У 1977 годзе Ян Даўкшыс стаў сьвятаром. У 1989-1995 гг. ён служыў настаяцелем царквы сьвятых Віленскіх мучанікаў Антона, Яна і Яўстаха ў г. Таўраге, што на захадзе Літвы.

Калі пасьля распаду СССР Каталіцкая Царква ўсходняга абраду выйшла з падпольля і пачала аднаўляць свае структуры, ён адразу вырашыў вярнуцца ў каталіцтва, і 1 чэрвеня 1995 году быў прыняты ўкраінскім грэка-каталіцкім біскупам Сафронам Дмытэркам, ЧСВВ у Каталіцкую Царкву.



• *09.12.2009, Вільня. Адпяваньне беларускага сьвятара а. Яна Даўкшыса ў царкве Сьвятой Тройцы.*

Пасьля пераходу ў Каталіцкую Царкву а. Ян служыў у Літве для беларусаў і іншых грэка-католікаў у Вільні ў славутай царкве Сьвятой Тройцы, што ў Базыльянскіх мурах, дзе некалі пачынаў сваё служэньне сьв. Язафат. Таксама ён езьдзіў у Каўнас, дзе ў касьцёле ў першую нядзелю кожнага месяца служыў для невялікай суполкі беларускіх уніятаў. Калі віленская грамада беларусаў адзначала памятныя даты беларускай гісторыі, ён служыў набажэнствы за Беларусь і за беларускі народ.

Паводле ўспамінаў і сьведчаньняў сваякоў, сьвятароў і блізкіх яму людзей, а. Ян быў сьціплым, велікадушным, незлапамятным, заўсёды радасным і шчырым чалавекам, які заўсёды і без усякіх умоваў імкнуўся бескарысьліва дапамагаць тым, хто ў патрэбе, нягледзячы на асобу, а шукаючы вобраз і падабенства Божае ў чалавеку. Ён умеў прабачаць даўгі і крыўды, якія часта сам зазнаваў ад іншых. Заўсёды адгукаўся на любую патрэбу і быў хуткі на дапамогу.

Я меў адзіную сустрэчу з а. Янам Даўкшысам сёлета, на сьвяткаваньні дня памяці сьв. Язафата ў Вільні. Для мяне асабіста ён запомніўся чалавекам дапытлівым, разумным. Ён вельмі зацікавіўся прывезенай мною кніжкай "Эпісталяцыя сьв. Язафата", падрыхтаванай у Полацку М. Баўтовічам, якую я адразу яму падараваў, бачачы ягоную шчырую і непадробную цікаўнасьць да новага. Паводле словаў а. Паўла Яхімца з базыльянскага манастыра Сьвятой Тройцы ў Вільні, айцец Ян сапраўды адрозьніваўся адукаванасьцю, інтэлегентнасьцю, але ніколі не імкнуўся паказаць нейкую вышэйшасьць перад іншымі.



• *Магіла а. Яна Даўкшыса на Кальварыйскіх могілках у Вільні.*

9 сьнежя 2009 году Боскую Літургію ў царкве Сьвятой Тройцы і пахаваньне айца Яна ўзначаліў ераманах а. Павел Яхімец, ЧСВВ. У пахаваньні сьвятара-беларуса ўдзельнічалі прадстаўнікі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы а. Аляксандар Шаўцоў з Полацку і яго жонка Тацяна. Быў таксама даўні сябра а. Яна (яшчэ з часоў яго служэньня настаяцелем у праваслаўнай царкве) рыма-каталіцкі сьвятар а. Леанід Будр'юс з Шаўляя.



Пахаваны а. Ян Даўкшыс на Кальварыйскіх могілках у Вільні.

**а. Аляксандар ШАЎЦОЎ,** *г. Полацак*



• *Вільня, 09.12.2009. Пахаваньне а. Яна Даўкшыса.*

# У Вільні адбыўся ўспамін сьвятога Язафата Кунцэвіча

***У Вільні, 14 лістапада, у грэка-каталіцкай царкве Сьвятой Тройцы адбылася Боская Літургія ў гонар сьвятога Язафата Кунцэвіча. Літургію ўзначаліў Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек. На багаслужбе прысутнічалі сьвятары з Беларусі, Украіны, Літвы, Польшчы, а таксама вернікі з беларускай і ўкраінскай супольнасьцяў Вільні.***

Менавіта ў царкве Сьвятой Тройцы ў Вільні сьвяты Язафат распачаў сваё служэньне і свой духовы подзьвіг. Ён спрычыніўся да справы адзінства Царквы, за што і быў забіты ў Віцебску ў 1623 годзе праваслаўнымі фанатыкамі. Але ягоная сьмерць стала той кропкай, ад якой уніяцкая вера стала займаць галоўнае месца сярод веравызнаньняў беларускага народу. Мошчы Сьвятога сёньня знаходзіцца ў Ватыкане, у саборы Сьвятога Пятра. Як адзначыў а. Сяргей Гаек, там, у саборы, спачываюць толькі рымскія папы, і адзіны ня папа – гэта наш сьвяты Язафат Кунцэвіч.

Пасьля шматлікіх гадоў забароны і занядбаньня Грэка-Каталіцкая Царква зноў адраджаецца. І відаць у гэтым заслуга сьвятога Язафата Кунцэвіча, які там, у нябесных вышынях, моліцца за нашую збалелую Бацькаўшчыну і за адраджэньне страчанай еднасьці хрысьціянаў.

**Алесь АДАМКОВІЧ,** *Westki.info*








*• Вільня, 14.11.2009. Літургія ў памяць сьв. Язафата ў царкве Сьвятой Тройцы.*

# 15-годдзе грэка-каталіцкай парафіі сьвятамучаніка Язафата ў Лідзе

***19 верасьня 2009 году, у суботу, грэка-каталіцкая парафія сьв. Язафата ў Лідзе падчас сьвяткаваньня парафіяльнага сьвята, адзначыла 15-годдзе аднаўленьня душпастырскай дзейнасьці ў гэтым горадзе.***



Сёньняшняя парафія зьяўляецца спадкаемцай грэка-каталіцкіх (уніяцкіх) супольнасьцяў, якія існавалі ў Лідзе з першай паловы XVII ст. пры 4 цэрквах: сьв. Яна, сьв. Мікалая (на рынкавай плошчы), сьв. Спаса і пры царкве Ўсячыстай Багародзіцы. Паводле "Ведомостей о греко-униятских церквях и монастырях Брестской епархии" за 1827 год у Лідзкім павеце было 18 уніяцкіх цэркваў і адзін манастыр, якія мелі разам 22496 парафіянаў.

Дзень памяці сьв. Язафата нашыя беларускія продкі-ўніяты адзначалі 16 верасьня, пасьля Крыжаўзвышэньня, і гэтую традыцыю вырашылі адрадзіць у Лідзе. Сьвяткаваньні ў душпастырскім цэнтры распачаліся Боскай Літургіяй, якую ўзначаліў Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей (Гаек). Саслужылі Боскую Літургію 4 грэка-каталіцкія сьвятары з розных парафіяў Беларусі (у Менску, Горадні, Віцебску і Полацку) ды прадстаўнік рыма-каталіцкага духавенства г. Ліды кс. Віктар Гваздоўскі з рыма-каталіцкай парафіі Ўзвышэньня сьв. Крыжа (Фарнага касьцёлу). Менскі моладзевы міжпарафіяльны хор "Прасфара" сваімі сьпевамі на Боскай Літургіі стварыў добрую малітоўную атмасферу. У казаньні а. Яўген Усошын з Менску заклікаў прысутных сьведчыць пра Ісуса Хрыста сваімі справамі і – паводле прыкладу сьвятамучаніка Язафата – адстойваць ідэнтычнасьць Царквы, як Супольнасьці, дзе можна сустрэць Ісуса Хрыста.

Сьвяткаваньне было прадоўжана канцэртам духоўных песьняў вядомага беларускага барда Алеся Камоцкага, які прасьпяваў пад гітару вершаваныя псальмы. У сьвяточную праграму ўключыліся таксама сябры лідзкага рыцарскага клубу "Дайнава", якія паказалі фрагмент гістарычнага рыцарскага турніру. (Трэба таксама адзначыць, што сябры лідзкіх клубаў гістарычнай рэканструкцыі – рыцары з клубу "Дайнава" і вікінгі з клубу "Хротгар" – аказалі каштоўную тэхнічную дапамогу ў падрыхтоўцы сьвята). Скончыліся сьвяткаваньні супольным абедам-агапай на сьвежым паветры.

Гасьцямі на парафіяльным сьвяце ў гонар сьв. Язафата былі вернікі з іншых грэка-каталіцкіх парафіяў Беларусі, браты рыма-католікі, сярод іх манахіні назарэтанкі і сёстры нотрдамкі. На ўрачыстасьцях у грэка-католікаў прысутнічаў таксама пастар евангелісцка-лютэранскай парафіі Сьвятога Крыжа ў Лідзе Сяргей Гейль.

Сьвяткаваньне 15-годдзя лідзкай парафіі сьв. Язафата праходзіла ў братэрскай атмасферы: удзельнікі на працягу некалькіх гадзінаў пасьпелі і памаліцца, і паслухаць канцэрт, і падсілкавацца, і, вядома, паразмаўляць адзін з адным, падзяліцца сьвяточнай радасьцю.

Госьці разыходзіліся (разьязджаліся) дадому з удзячнасьцю лідзкаму душпастыру айцу Андрэю Буйнічу ды гасьцінным парафіянам.

*Паводле Svjazep.org*

# Сінод УГКЦ пра еднасьць

***«Замест манапольнага валоданьня хрысьціянскай Украінай, што было характэрным знакам мінулых эпох, мы прапануем сулучнасную еднасьць сёньня яшчэ падзеленае Кіеўскае Царквы», – гаворыцца ў пастырскім пасланьні біскупаў УГКЦ, прынятым на пасяджэньні Сіноду, што праходзіў з 29 лістапада па 6 сьнежня 2009 году ў Кіеве.***

«Ва Ўкраіне насьпела сур'ёзная неабходнасьць усьвядоміць розьніцу паміж «уніятызмам» як канфесійным падпарадкаваньнем і сулучнаснай еднасьцю роўных у годнасьці Цэркваў», – сьцьвярджаюць члены Сіноду УГКЦ. Стварэньне адзінай Паместнай Царквы павінна было б адбыцца ў форме сулучнасьці: еднасьць у веры, пры захаваньні літургічных і багаслужбовых асаблівасьцяў кожнага.

Разглядаючы пытаньне еднасьці Царквы ва Ўкраіне, ярархі УГКЦ адзначылі, што «гэтая еднасьць, каб прынесьці ва Ўкраіну мір і згоду, павінна вырасьці з сярэдзіны, ва ўлоньні кожнай галіны Кіеўскай Царквы». Зьвяртаючы ўвагу на важнасьць асэнсаваньня прапанаванай мадэлі еднасьці Кіеўскай Царквы, яны падкрэсьліваюць, што гэтае пытаньне патрабуе «вышыні духа», больш шырокага далягляду, хоць «перашкоды для аб'яднаньня ўкраінскіх Цэркваў цалкам відавочныя, а небясьпекі – несумненныя». «Мы павінны іх бачыць і іх ўлічваць. І ўсё ж бачыць толькі іх – гэта як бы аддаць сябе зямному прыцягненьню, прыціснуўшы свой дух да прысядзібнага тыну», – гаворыцца ў пасланьні.



# Сузіраючы ікону Раства



*• Дуча ды Буонінсенья. РАСТВА (1308-11).*

Бог стварыў чалавека на свой вобраз і падабенства *(гл. Быц 1, 26-27; Ёў 10, 8)* і, абдараваўшы яго такой славаю, пасяліў у месцы, якое адпавядала годнасьці чалавека – у Эдэме *(гл. Быц 2, 8; 2, 15)*.

Але чалавек, які быў вобразам і падабенствам Бога, адразу стаў прадметам зайздрасьці і трапіў у сеці ненавіснага Злога, які падмануў яго *(гл. Быц 3, 1-6).* Упаўшы ў грэх, чалавек зацёр у сабе вобраз Божы і зрабіўся падобным да істотаў, што былі вакол яго. Пачуўшы крокі Госпада, ён схаваўся ад Яго, ператварыўшы гэтым Эдэм у пустыню.

Але Госпад зьлітаваўся над чалавекам, бо не хацеў, каб Яго падабенства заўсёды несла пашкоджаны вобраз, таму адразу ж спытаў чалавека: "Дзе ты?" *(Быц 3, 9).* Гэтае Божае пытаньне гучала на працягу ўсёй гісторыі. Але чалавек не адказваў на яго. Таму Госпад падбаў пра чалавека пры дапамозе цудоўнага плану збаўленьня: Ён сышоў з неба, з пасаду Сваёй славы, і пасяліўся ў Сваім вобразе. Прыняў выгляд слугі *(гл. Флп 2, 7)*, каб аднавіць сваё падабенства ў першаснай цэласьці.

Так у Хрысьце адбылося аднаўленьне чалавека; новае стварэньне. Створаны на вобраз і падабенства Бога, чалавек зноў атрымаў сваю першасную прыгажосьць. Гэта дазволіла Хрысту "стацца падобным да нас, каб мы зноў адшукалі сваё падабенства да Бога". Так, ход акту стварэньня нібыта зьмяніўся, ва ўцелаўленьні Госпад стаў вобразам чалавека ў Ісусе Хрысьце.

Рыгор Багаслоў з гэтай нагоды гаворыць так: Хрыстос "прыняў на сябе маю плоць, каб збавіць падабенства і зрабіць несьмяротным цела. Па-другое, увайшоў у сапрычасьце з намі, якое ў параўнаньні з першым было надзвычайным; у першым Ён перадаў нам лепшае, а ў другім прыняў горшае. Яно больш боскае і больш слаўнае, чым першае, для ўсіх, хто можа зразумець".

Ікона Нараджэньня Хрыстовага паказвае гэты цудоўны план збаўленьня: найвышэйшая праява любові Бога да чалавека, эсхаталагічнае ўзьяднаньне нябеснай і зямной рэчаіснасьці. Бачым, што Божы Сын спачывае ў ясьлях *(гл. Лк 2, 7)*, але адначасова ведаем, што Ён сядзіць праваруч Айца. Бачым Яго ў абдымках Маці і адначасова ведаем, што Ён – на лоне Нябеснага Айца. На Вялікай павячэрніцы ў сьвята Раства молімся такімі словамі:

Неба і зямля сёньня злучыліся, бо Хрыстос нарадзіўся. Сёньня Бог прыйшоў на зямлю, і чалавек узышоў на неба. Сёньня дзеля нас, людзей, Нябачны па прыродзе стаецца бачным у целе *(Песьня на Ліцьці на Раство Хрыстовае, тон 1)*. Гэтую таямніцу адлюстроўвае таксама і ікона Хрыстовага Раства, таму мы сёньня можам прыняць праўду, якую хацелі адшукаць так шмат прарокаў і справядлівых *(гл. Мц 13, 17)*! Творца стаў такім самым, як і мы, чалавекам, стаў адным з нас у Сваім Сыне, прыйшоў да сваіх стварэньняў, але быў непадуладны ніякаму граху. Прыйшоў, каб праславіць чалавека, каб надзяліць нашу людзкую прыроду і зрабіць нас удзельнікамі боскасьці. Ужо каля 180 году сьвяты Ірынэй адважваецца гаварыць так: "Бог стаўся чалавекам, каб чалавек мог стаць Богам". Гэтымі словамі кіраваліся шмат хто з усходніх Айцоў.

Каб чалавек мог сузіраць гэты цуд Раства, ён павінен ня толькі расплюшчыць вочы, каб бачыць, прыслухацца, каб чуць, але і падрыхтаваць розум, каб пазнаваць і ўспрымаць. Да гэтага заклікае адзін з вялікіх прапаведнікаў XIV ст.: "Прашу цябе, дарагі Чытач, падаруй мне свой пабожны розум. Аддалі ад яго ўсе сьвецкія і матэрыяльныя турботы, ачысьці яго як дошку, падрыхтаваную да маляваньня, і на ім я накрэсьлю табе цудоўны вобраз Раства, каб ты зразумеў глыбіню Добрай весткі і таямніцы, каб мы разам праслаўлялі Бога".

Самая старажытная выява Нараджэньня Госпада дайшла да нас з IV ст. Тады сьвяткаваньне Раства супадала са сьвятам Богазьяўленьня. Такім чынам, 6 студзеня праслаўлялі Раство Хрыстовае, пакланеньне каралёў з Усходу і хрост Збавіцеля.

Такое супадзеньне было цалкам слушным. Бо Нараджэньне Божага Сына адбылося тайна, пра яго даведалася толькі некалькі асобаў*, а хрост Ісуса адбыўся прылюдна, адсюль і назва – Богазьяўленьне. Слова Айца зьяўляе сьвету Сына: "Ты – Мой Сын улюбёны" *(Лк 3, 22)*, і сьведчыць пра Яго зьяўленьне Сьвятога Духа ў выглядзе голуба *(гл. Лк 3, 21)*. Прычынаю аддзяленьня гэтых двух сьвятаў была патрэба Царквы адказаць на напады гнастычных, дакетыстычных ды арыянскіх гарэзіяў. Паўстала неабходнасьць зьвярнуць увагу і на сапраўдную людзкую прыроду Хрыста, і на Яго сапраўдную боскую сутнасьць.

Іканаграфія Раства сфармавалася досыць хутка, і выява ў асноўным засталася нязьменнаю да нашых дзён. На іконе бачым нованароджанага Хрыста, Багародзіцу, Язэпа, зорку, жывёлаў, пастухоў, усходніх мудрацоў.

Магчыма, гэтая кампазіцыя ў сваёй аснове мае выяву з царквы, пабудаванай імператарам Канстанцінам Вялікім у Бэтлееме. У IV-V ст. пілігрымы, вяртаючыся з падарожжа, прыносілі дадому бутэлечкі з асьвячаным алеем. Менавіта на гэтых пасудзінах можам пабачць істотныя рысы іканаграфічнай выявы Раства. Хоць на працягу стагоддзяў у розных рэгіёнах хрысьціянскага сьвету можна прасачыць нязначныя зьмены ў выявах, перш за ўсё ў разьмеркаваньні постацяў альбо ў колькасьці дэталяў. Але галоўная схема заўсёды застаецца нязьменнаю.

Сузіраючы ікону Раства, можна заўважыць, што яна проста і выразна адлюстроўвае падзеі, апісаныя ў Евангельлі. Аднак часта адзначаем таксама, што яна ўзбагачаная дэталямі, якія прынесеныя мясцовай традыцыяй альбо апавяданьнямі з апакрыфічных Евангельляў.

Мэта іконы – мастацкімі сродкамі, якія ў іканапісе проста-такі паэтычныя, чысьцінёй іканаграфічнага метаду ўказаць на глыбокі дыдактычны зьмест. На першы погляд выява можа здавацца перагружанаю масаю дэталяў. Але калі мы заглыбімся ў іх духовы сэнс, то паволі за цудоўнаю прастатою зможам адкрыць глыбіню той падзеі, якую чакалі патрыярхі, якую прадбачылі прарокі і якую так хацелі адшукаць справядлівыя!

Ікона Хрыстовага Раства зьяўляецца ўступам да той боскай паэмы, якую называем гісторыяй збаўленьня. Падобна, як у пралозе да вялікіх паэмаў у агульных рысах пададзена тэма, якой прысьвечаны твор, так і на гэтай выяве можна знайсьці падсумаваньне таямніцаў нашай веры: Уцелаўленьня, сьмерці, Уваскрасеньня, якія выкладзеныя ў Сымбалі веры.

Усё сталася "дзеля нас людзей і дзеля нашага збаўленьня" *(Сымбаль веры)*. Вось жа, дзеля нас нарадзіўся ад Багародзіцы наш Госпад, пацярпеў крыжовую сьмерць, а Ўваскрасеньнем засьведчыў сваю боскую сутнасьць. Увесь створаны сьвет зьяўляецца ўдзельнікам гэтага вялікага Божага плану: і ня толькі жывая і нежывая прырода, але і сьвет анёлаў. У сімфоніі Збаўленьня кожны – удзельнік хору велічнага гімну цэлага Сусьвету. Гэта і паказвае ікона Раства:

*Чым мы Табе аддзячым, Хрысьце, за тое, што Ты стаўся чалавекам дзеля нас на зямлі? Кожнае стварэньне, што прыйшло праз Цябе да быцьця, прыносіць падзяку Табе: анёлы – сьпевы, неба – зорку, мудрацы – дары, пастушкі – абвяшчэньне цуду, зямля – пячору, пустыня – ясьлі, а мы прыносім Табе Маці Дзеву. Спрадвечны Божа, зьмілуйся над намі! (Песьня вячэрні Раства Хрыстовага на "Госпадзе, цябе клічу...", тон 2)*

*Урывак з кнігі Іштвана Іванчо "Раства".*

*Пераклад з украінскай а. Андрэя Крата.*

** Гэта сымбалізуе праскамідыя, якую робяць толькі сьвятары і дыяканы пры зачыненых царскіх варотах.*

# ДАВЕДКА

## АДНОСНА АДНАЎЛЕНЬНЯ СТРУКТУРАЎ БЕЛАРУСКАЙ ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЙ ЦАРКВЫ Ў ХХ СТ.

*(Дадатак да Ліста грэка-каталіцкіх сьвятароў Беларусі ад 09.10.2009).*

170 гадоў таму, 24 лютага 1839 году, у Полацку пад патранатам расейскіх уладаў адбыўся пра-дзяржаўны Полацкі псэўдасабор, на якім літоўскі біскуп Ёсіф Сямашка і яго ныя нешматлікія паплечнікі абвясьцілі сваё адмаўленьне паслухмянасьці Папу Рымскаму і "ўзьяднаньне" Ўніяцкай Царквы на беларускіх землях з дзяржаўнай Царквой Расейскай імпэрыі. І хоць з кананічнага пункту гледжаньня гэты зьезд ня можа лічыцца ані саборам, ані нават кананічным зьездам, тым ня менш менавіта тады адбылася гвалтоўная ліквідацыя структураў грэка-каталіцкай Царквы ў Беларусі. Шматлікія парафіі і вернікі супраціўляліся гэтым пастановам яшчэ на працягу дзесяцігодзьдзяў.

Аднаўленьне структуры грэка-каталіцкай Царквы ў Беларусі адбылося дзякуючы працы Слугі Божага мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага. Ад Папы Пія Х ён атрымаў вусныя паўнамоцтвы дзейнічаць у якасьці першаярарха візантыйскага абраду на ўсёй тэрыторыі Расейскай імпэрыі (паўнамоцтвы, дадзеныя ў 1907 г., пісьмова пацьвярджаліся ў 1908 г. і ізноў пацьвярджаліся ў 1909, 1910, 1914 гг.[1]). Фармальнае аднаўленьне царкоўнай структуры грэка-каталікоў на тэрыторыі ўсёй Расейскай імпэрыі пачалося з прызначэньня намесьнікам мітрапаліта Андрэя ў Расейскай імпэрыі (фармальна – намесьнікам Камянецкай япархіі) а. Аляксея Зерчанінава (29 чэрвеня 1907 г.).[2] Улада яго ная фармальна распаўсюджвалася і на тэрыторыю сучаснай Беларусі. 22 траўня 1908 году а. Аляксей Зерчанінаў быў прызначаны Рымам кіраўніком місіі для каталікоў візантыйскага абраду ў Расейскай імпэрыі, падпарадкаванай непасрэдна Сьвятому Пасаду[3]. Калі ў 1917 годзе бласлаўлёны Леанід Фёдараў быў прызначаны экзархам для грэка-каталікоў Расеі, тэрыторыя Беларусі была выключана з яго надпарадкаваньня,[4] аднак, па некаторых дадзеных, у 1922 годзе мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі часова пашырыў яго паўнамоцтвы на Беларусь, у сувязі з рухам у бок аднаўленьня адкрытага вызнаваньня там грэка-каталіцтва, якое падаўлялася ў царскай Расеі[5].

Потым, паводле сваіх вышэй узгаданых паўнамоцтваў, мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі 09.10.1939 г. разьдзяліў усю Савецкую Расею на Экзархаты Апостальскай Сталіцы, прызначыўшы Высокадастойнага біскупа Мікалая (Чарнецкага) экзархам Валыні, Холмшчыны ды Падляшша (да 17.09.1940 – таксама Беларусі), а. Клімента (Шаптыцкага) – экзархам Вялікай Расеі і Сібіры, а. Ёсіфа Сьліпога – экзархам Вялікай Украіны, а а. Антона Неманцэвіча, SJ (з 17.09.1940 г.) – экзархам Беларусі. 18-19.09.1940 г. пад кіраўніцтвам Мітрапаліта Андрэя (Шаптыцкага) прайшоў Сабор Экзархаў. Паколькі ў гэтых гістарычных абставінах сувязь з вышэйшай царкоўнай уладай была ўскладненая, ён склікаўся без папярэдняй згоды Папы, а яго пастановы лічыліся дзейснымі да таго моманту, калі Апостальскі Пасад выкажа сваё меркаваньне адносна іх. Пасьля правядзеньня Сабору, 26.09.1940 г. мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі атрымаў ліст ад Яго Эмінэнцыі кардынала Алаізія Мальёнэ, Дзяржсакратара Ватыкану, які быў датаваны ад 30.05.1940. У ім выказвалася ўдзячнасьць за служэньне, якое мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі выконваў раней, і адзначалася, што яго ныя паўнамоцтвы, якія раней пацьвярджаліся папамі Піем Х, Бенядыктам XV і Піем XI, адклікаюцца. Пасьля разгляду гэтага ліста экзархі прыйшлі да высновы, што прызначэньні, якія адбыліся, зьяўляюцца сапраўднымі, бо адкліканьне паўнамоцтваў набывала моцы толькі з 26.09.1940, г. зн. з моманту атрыманьня Мітрапалітам Андрэем паведамленьня аб гэтым. Таму экзархі вырашылі працягнуць выкананьне сваіх абавязкаў ажно да адмысловага рашэньня Сьвятога Пасада, аб чым і паведамілі Сьвяты Пасад пасланьнем ад 24.01.1941 г.[6]

Адказ з Рыму ад 22.12.1941 г. паведамляў, што пасьля разгляду прынятых рашэньняў Сьвяты Айцец 22.11.1941 г. прыняў рашэньне зацьвердзіць прызначаных асобаў у якасьці Апостальскіх Экзархаў ажно да новых рашэньняў Апостальскага Пасаду. Мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі (асабіста) быў прызначаны дэлегатам Апостальскай Сталіцы, адказным за кіраваньне прызначанымі экзархамі. Такім чынам, стварэньне Экзархатаў і прызначэньне экзархаў атрымалі зацьвярджэньне Сьвятога Пасаду. У якасьці Экзарха Беларусі быў зацьверджаны і а. Антон Неманцэвіч[7], які кіраваў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквой аж да сваёй мучаніцкай сьмерці 6.01.1943 г., пасьля чаго наш Экзархат стаў вакантным.

Падчас ІІ Сабору Апостальскіх Экзархаў, які адбыўся 13-16.06.1942 г. былі вызначаныя межы Экзархатаў. Да тэрыторыі беларускага Экзархату была аднесеная этнічная Беларусь і прыбалтыйскія дзяржавы[8]. Такім чынам, як і расейскі Экзархат, менавіта з 1941 г., існуе ў якасьці Апостальскага Экзархату і беларускі грэка-каталіцкі Экзархат.

На пытаньне, ці працягвае Экзархат Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы кананічна існаваць, адказ мусіць быць, як нам здаецца, адназначна станоўчы. Згодна з канонам 311 § 2 CCEO, правa стварэньня, зьмяненьня ці ліквідацыі Экзархатаў, якія не знаходзяцца ў тэрытарыяльных межах Патрыяршых усходніх каталіцкіх Цэркваў, належыць толькі Апостальскаму Пасаду. Экзархат, які быў аднойчы створаны, зьяўляецца юрыдычнаю асобаю ipso iure (Can. 921 § 2 CCEO). Згодна з канонам 927 § 1 CCEO, юрыдычная асоба можа перастаць існаваць, толькі калі ліквідавана кампетэнтнай уладай (у дадзеным выпадку – Апостальскім Пасадам) ці калі зьяўлялася бязьдзейнай на працягу ста гадоў (чаго ў выпадку беларускага грэка-каталіцкага Экзархату не было). Дэлегаваная мітрапаліту Андрэю ўлада кіраваньня Экзархамі была асабістай і скончылася з яго най сьмерцю, а права вышэйзгаданага кіраваньня Экзархатамі і Экзархамі адышло да Апостальскага Пасаду. Паколькі, наколькі нам вядома, заснаваны ў 1939 годзе і зацьверджаны Апостальскім Пасадам у 1941 г. грэка-каталіцкі Экзархат Беларусі ня быў з якой-небудзь паважнай прычыны ліквідаваны нейкім сьпецыяльным актам Апостальскага Пасаду, мы лічым яго кананічна існуючым, а вернікаў грэка-каталіцкай Царквы, якія знаходзяцца на яго най тэрыторыі, прыналежнымі да яго.

Згодна з нормамі канона 175 CCEO, Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква, як і яе кананічна існуючы, але ў дадзены момант вакантны Экзархат, залежаць непасрэдна ад Апостальскага Пасаду.

---

*1. Диакон Василій ЧСВ, Леонид Федоров: жизнь и деятельность.– Львов, 1993. С. 82-91.*

*2. Митрополит Андрей Шептицький і греко-католики в Росії: Книга 1. Документи і матеріали, 1899-1917.– Львів, Видавництво Українського Католицького Університету, 2004. Док. № 53. С. 143-144. Зацьвярджэньне граматы Папам Піем Х – там жа: Док. № 93. С. 218-219.*

*3. Диакон Василій ЧСВ, Леонид Фёдоров: жизнь и деятельность.– Львов, 1993. С. 90.*

*4. "С терпением мы должны нести крест свой…": Документы и материалы о жизни и деятельности блаженного священномученика экзарха Леонида (Фёдорова).– Издательская группа "Керигма", Санкт-Петербург, 2004. Документы III-02 и III-03. С. 165-168.*

*5. Диакон Василій ЧСВ. Леонид Федоров: жизнь и деятельность.– Львов, 1993. С. 497.*

*6. "Митрополит Андрей Шептицький і греко-католики в Росії": Книга 1. Док. №143. С. 357-364.*

*7. "Митрополит Андрей Шептицький і греко-католики в Росії": Книга 1. Док. №135. С. 331-332.*

*8. "Митрополит Андрей Шептицький і греко-католики в Росії": Книга 1. Док. №147. С. 369-371.*

# Ліст грэка-каталіцкіх сьвятароў Беларусі Сьвятому Айцу

*Яго Сьвятасьці Бенядыкту XVI,*
*Сусьветнаму Архірэю і Папе Рымскаму*
*на рукі*
*Высокадастойнага Прэфекта Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў*
*Кардынала Леанарда Сандры*

*Копія: Высокадастойнаму архібіскупу*
*Марціну Відавічу, Апостальскаму Нунцыю ў Беларусі*
*Копія: Дастойнаму а. архімандрыту Сяргею Гаеку,*
*Апостальскаму Візітатару для грэка-католікаў Беларусі*

Сьвяты Ойча і Першапастыр Паўсюднай Царквы!

Сабраўшыся ў Віцебску (на месцы мучаніцтва сьв. Язафата) з нагоды штогадовага ўспаміну Берасьцейскай Уніі, сымбалю нашай еднасьці з Апостальскім Пасадам сьвятога Пятра, мы, сьвятары Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, хочам зьвярнуцца да Вашае Сьвятасьці з лістом-напамінам пра нас, грэка-каталікоў Беларусі, ды з пакорнай просьбай аб належным упарадкаваньні нашага кананічнага статусу ў Каталіцкай Царкве.

Амаль 20 год таму група нашых вернікаў зьвярнулася да Апостальскай Сталіцы з лістом, у якім яны паведамлялі пра зьмену палітычнай сітуацыі ў краіне ды аднаўленьне адкрытай дзейнасьці грэка-каталікоў у Беларусі. На той момант душпастырскія структуры нашай Царквы (а да 1939 г. мы былі Апостальскім Экзархатам, аб чым гл. у дадатку да ліста) былі цалкам зьнішчаныя. На пачатку 90-х паўстала некалькі невялікіх суполак верных, якія ня мелі ані памяшканьняў, ані сьвятароў. У адказ на зварот вернікаў Сьвятая Сталіца прыняла "часовае" рашэньне аб прызначэньні Апостальскага Візітатара "ad nutum Sanctae Sedis".

За гэты час Царква вырасла, зьявіліся сьвятары, манахі, манахіні, парафіяльныя цэнтры і першыя храмы, але афіцыйнага вызнаньня нашых структураў пакуль што так і не адбылося.

Кананічная структура (экзархат ці япархія) на чале з біскупам патрэбная для таго, каб упарадкаваць жыцьцё нашых парафіяў-суполак і кананічны статус нас, сьвятароў, каб дапамагчы нам вырашаць шматлікія пытаньні і выклікі (у тым ліку і кананічныя), якія ўзьнікаюць амаль штодзённа, але найперш дзеля таго, што згодна са старажытнай эклезіялогіяй, якую агучыў сьв. Ігнат Антыяхійскі, Царква ёсьць там, дзе ёсьць біскуп, які ачольвае Еўхарыстычны збор верных і яднае ўсіх пад сваім пастырскім амафорам.

У нашых сэрцах яшчэ жыве сьветлы ўспамін пра прыезд на Беларусь Вашага Прадстаўніка, Дзяржсакратара найдастойнага кардынала Тарчызіё Бэртонэ, які, падчас свайго візіту, наведаў таксама і нас, беларускіх грэка-католікаў. Спадзяемся, што рэчаіснасьць, якую ён тут пабачыў, дапаможа яму засьведчыць шчырасьць нашых намераў.

Даручаем сябе і гэты ліст апецы Найсьвяцейшае Багародзіцы Жыровіцкай, 280-я ўгодкі каранацыі папскімі каронамі іконы якой урачыста ўзгадваем у гэтым царкоўным годзе.

09.10.2009

* * *

*Гэты Ліст Рымскаму Архірэю Бенядыкту XVI падпісалі 14 сьвятароў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы: а. Ігар Кандрацьеў, а. Яўген Маліноўскі, а. Пётр Мартэн, а. Казімір Ляховіч, а. Андрэй Абламейка, а. Пахом Кавалёў, а. Зьміцер Грышан, а. Андрэй Крот, а. Аляксандар Шаўцоў, а. Андрэй Буйніч, а. Яўген Усошын, а. Аляксандар Шыбека, а. Васіль Ягораў, а. Аляксандар Аўдзяюк.*



# Дзяды: успамін памерлых

***У нядзелю, 1 лістапада 2009 году, а. Пахом Кавалёў, адміністратар менскай грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі, разам з вернікамі маліўся на Маскоўскіх могілках сталіцы.***


© Я.Андросік.

• Малітва ля магілы Васіля Быкава.

На магіле сьвятой памяці Васіля Быкава ён адслужыў Паніхіду за ўсіх памерлых вернікаў-патрыётаў, што сваёй працай ды творчасьцю служылі Беларусі.

У той жа дзень айцец Пахом адслужыў Паніхіду ля мемарыяльнага крыжа ва ўрочышчы Курапаты. Удзельнікі малітвы даверылі Божай міласэрнасьці душы пахаваных там нявінна забітых, што загінулі ў час рэпрэсіяў.

У панядзелак, 2 лістапада, на Кальварыйскіх могілках у Менску была адслужана паніхіда на магіле дэкана БГКЦ протапрасьвітара Яна Матусевіча.

Супакой, госпадзе, душы слугаў Тваіх!

*Паводле Svjazep.org*


© Я.Андросік.

• Памінальная малітва ў Курапатах.

# Дабрачынная акцыя «Божае Нараджэньне – дзецям»

***12 сьнежня 2009 году ў рыма-каталіцкай парафіі сьвятога Юды Тадэвуша ў мястэчку Лучай (Пастаўскі дэканат, Віцебская дыяцэзія) адбыўся калядны дабрачынны канцэрт-праслаўленьне. Па запрашэньні пробашча парафіі кс. Мікалая Ліпскага з канцэртнай праграмай выступіў гурт «Маран ата» з грэка-каталіцкай парафіі сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў г. Берасьці.***

Гэтая дабрачынная акцыя распачалася пасьля сьвятой Імшы і стала, паводле словаў лучайцаў, цудоўным завяршэньнем адвэнтовых рэкалекцыяў у парафіі. Прысутныя вернікі (а іх было некалькі сотняў) пазнаёміліся з сьпевамі «Марана аты» з іх першага дыску «Песьні Духа вялікіх містыкаў Кармелю», які выйшаў сёлета, а таксама і з новымі песьнямі.

Сродкі, сабраныя падчас канцэрту-праслаўленьня, пойдуць на калядныя падарункі дзецям у прытулках г. Паставы і м. Варапаева, каб яны маглі радасна і шчасьліва сустрэць сьвята Нараджэньня Хрыстова.

У гэты ж дзень у м. Лучай была таксама асьвячана капліца Маці Божай Гвадэлупскай, Заступніцы ненароджаных дзяцей.

# Беларускай Царкве – быць!

**На пытаньні Рэдакцыі газеты «Царква» адказвае беларускі грэка-каталіцкі сьвятар з Лондану а. Сяргей СТАСЕВІЧ**


• Лондан. Айцец Сяргей Стасевіч (справа) на Літургіі з беларускімі грэка-каталіцкімі сьвятарамі.

***– Айцец Сяргей, ці не маглі б Вы для чытачоў "Царквы" расказаць трошкі пра жыцьцё ў Беларускай місіі ў Лондане? Што адбываецца новага, якія планы, намеры? Як справы з вернікамі?***

– Пачну з людзей. Калі я часам бываю ў сваіх родных Івацэвічах, ці скажам, у Лідзе, дык рэгулярна бачу тую самую карціну: чалавек з дзесяць вернікаў на нядзельнай службе. Розьніцы, на мой погляд, паміж Лонданам і Івацэвічамі ў гэтым сэнсе амаль няма. Існуем мы ў Лондане не дзеля і не дзякуючы гэтай купкі людзей, а хутчэй дзеля прынцыпу: Беларускай Царкве ў Брытаніі быць! Заўважу, што за мае 4 гады тут, у Лондане, некалькі чалавек прыйшлі ў царкву і "рэзка" вырасла колькасьць хростаў і мірапамазаньняў: у гэтым годзе ў нас іх адбылося 4. Рэгулярна ходзяць у нашую хатнюю царкву і праваслаўныя беларусы. Да пачатку 1990-х Місія наогул мела 1-2 сталых вернікаў, а пасьля гэтага вернікамі былі тыя студэнты, якіх а. Надсан запрашаў на вучобу, г. зн. якія жылі і вучыліся тут. Няма ўжо ані тых студэнтаў, ані навучальнае ўстановы, дзе яны вучыліся, ані "студэнцкага дому", які мы ўрэшце вымушаныя былі прадаць. Прададзены быў таксама вялікі пусты кавалак зямлі, былы сад, і на атрыманыя сродкі распачалася рэканструкцыя нашага асноўнага будынку – Марыян Гаўз *(гл. фота)*, якая зойме каля двух гадоў. У нашых планах – прыбудова новай прасторнай царквы, якая б зьмясьціла ўсіх тых, хто яшчэ мае да нас прыйсьці ў будучыні. У нас, у Лондане, была Беларуская школа-інтэрнат, ёсьць Беларускі музей і бібліятэка, але ніколі не было сапраўднага царкоўнага будынку.



***– Нядаўна Вы закончылі студыі і абаранілі магістарскую працу. Калі ласка, распавядзіце трохі пра свае студыі і тое, чым Вы займаліся.***

– Цягам мінулага году я вывучаў кананічнае права ў Каталіцкім коледжы Хітрап, які зьяўляецца часткай Лонданскага ўніверсітэту. Мая магістарская праца прысьвечана аналізу Кодэкса Канонаў Усходніх Цэркваў у рэчышчы кананічнай традыцыі хрысьціянскага Ўсходу, у прыватнасьці візантыйскай Царквы. У сваёй працы я раблю высновы, што ўсходняе каталіцкае царкоўнае права ў прынцыпе найперш грунтуецца на заходняй і лацінскай кананічнай традыцыі, прадуктам якое яно зьяўляецца. Зрэшты, і само зьяўленьне Ўсходніх Каталіцкіх Цэркваў (былых уніяцкіх) адбывалася на глебе заходняй эклезіялогіі, дзе Паўсюдная Царква разглядалася як сукупнасьць памесных Цэркваў з Сусьветным біскупам Рымскім на чале. Таму аднаўленьне царкоўнай еднасьці ў форме Уніі прадугледжвала далучэньне паасобных "частак" Паўсюднае Царквы, якія адкаліліся ад яе, да адзінага "цэлага". Іншыя ж эклезіялагічныя мадэлі ставяць на першае месца еўхарыстычную супольнасьць памеснай Царквы, якая і ёсьць Паўсюднай Царквой ва ўсёй паўнаце, яна ўжо і ёсьць гэтае цэлае, а не толькі частка чагосьці. Пры такім падыходзе еднасьць Царквы ёсьць сулучнасьцю (камуніяй) Цэркваў, дзе папа – першы сярод роўных сабе біскупаў. Такім і хацелі б бачыць сёньня служэньне папы Ўсходнія Цэрквы, і ня толькі некаталіцкія.


• На гэтым пляцы будзе новая беларуская царква ў Лондане.

***– Напэўна, гэтая тэма ў Вас закранае таксама і актуальныя пытаньні жыцьця Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы?***

– Дзе толькі магчыма было, я спасылаўся на прыклад Беларускай Царквы ў сувязі з праблемамі, якія паўстаюць з-за цяперашняй нявызначанасьці яе праўнага статусу.

***– Чытачы газеты "Царква" і нашыя вернікі часам цікавяцца, што ўяўляе сабой Грэка-Каталіцкая Царква ў Беларусі, хто зьяўляецца кіраўніком у ёй. Вось і нядаўна было падобнае пытаньне: ці мае нашая Царква статус sui iuris (свайго права). Дык можа Вы маглі б выказаць сваё меркаваньне адносна гэтага пытаньня?***

Што такое "Царква свайго права"? Гэты тэрмін упершыню зьяўляецца ў новым Кодэксе Канонаў Усходніх Цэркваў і азначае групу хрысьціянскіх вернікаў, аб'яднаных ярархіяй, якую найвышэйшая ўлада Царквы яўна або маўкліва вызнае як Царкву свайго права. Пэўныя формы вызнаньня нашай Царквы Рымам можна заўважыць. Напрыклад, доказам гэтаму можа служыць нядаўні візіт да грэка-католікаў Менску Дзяржаўнага сакратара Ватыкану, наяўнасьць Беларускай Царквы ў агульным сьпісе Цэркваў *sui iuris* у Ватыканскім даведніку *"Annuario Pontificio"* і г. д. Аднак, калі гэта і ёсьць тое маўклівае вызнаньне, дык яго яўна недастаткова для таго, каб быць Царквой свайго права. Адсутнасьць кананічнай улады (візітатар – гэта не адміністратар і тым больш ня біскуп) прымушае асабіста мяне сумнявацца ў праўнасьці як грэка-каталіцкіх парафіяў, так і гэтак званых "дэканатаў", на якія нібыта падзелена "БГКЦ", ня кажучы ўжо пра "аддзелы" і "сакратарыяты". На маю думку, усе гэтыя тэрміны могуць ужывацца адно толькі ўмоўна, у двухкосьсі да тае пары, пакуль Беларуская Царква ня будзе мець ярархію. Працытую кан. 279: "Парафія – гэта акрэсьленая супольнасьць хрысьціянскіх вернікаў, усталяваная на сталай аснове ў япархіі". Канон 281 кажа таксама, што заснаваньне, мадыфікацыя і ліквідацыя парафіяў зьяўляецца кампетэн-



Павел ПАРФЕНЦЬЕЎ (г. Санкт-Пецярбург)

# БГКЦ – Царква свайго права

***Пытаньне пра тое, ці зьяўляецца Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква Царквой sui iuris («свайго права») – гэта сур'ёзнае для жыцьця і для разуменьня прававой сітуацыі гэтай Царквы пытаньне. Безумоўна зразумела, што існуе Беларуская ўсходне-каталіцкая Царква (якая адносіцца да Цэркваў канстанцінопальскай абрадавай традыцыі), і што існуе беларускі абрад. Абодва гэтыя факты з году ў год яўна і недвухсэнсоўна канстатуюцца ў афіцыйным выданьні Сьвятога Пасаду «Annuario Pontificio», і таму ня могуць выклікаць сумневаў. Але ці зьяўляецца гэтая Беларуская Царква з пункту гледжаньня кананічнага права Царквой sui iuris?***

***Каб адказаць на гэтае пытаньне, трэба асьвятліць шэраг пытаньняў кананічнага права, цесна з ім зьвязаных, што мы і паспрабуем зрабіць.***



**Пытаньне 1: Ці можа з кананічнага пункту гледжаньня існаваць абрад без існаваньня адпаведнай яму «ўласнай» Царквы sui iuris?**

Адказ на гэтае пытаньне патрабуе ўважлівага вывучэньня нормаў Кодэксу Канонаў Усходніх Цэркваў (ККУЦ) і, найперш, вызначэньня абраду паводле Кодэксу.

Кан. 28 § 1 вызначае абрад так: «Абрад – гэта літургічная, багаслоўская, духоўная і дысцыплінарная спадчына, культура і абставіны гісторыі канкрэтнага народу, праз якія ў кожнай Царкве sui iuris выяўляецца ўласны спосаб жыцьця ў веры».

Аналізуючы гэтае вызначэньне, важна адзначыць наступнае. Па-першае, вызначаючы абрад, заканадаўца не абмежаваўся апісаньнем яго як комплексу своеасаблівай літургічнай, багаслоўскай, духоўнай і дысцыплінарнай хрысьціянскай спадчыны канкрэтнага народу. Калі б абрад ня быў канстытуцыйна зьвязаны з канкрэтнай Царквою, дзе ён ажыцьцяўляецца, досыць было б, даўшы падобнае вызначэньне, дадаць, што кожны абрад рэгулюецца ўласным комплексам абрадавых пастановаў і нормаў, зацьверджаных царкоўнай уладай. Аднак заканадаўца ігнаруе такую магчымасьць, уводзячы ў вызначэньне абраду ў Кодэксе асаблівую ўласьцівасьць, а менавіта тое, што праз абрады выяўляецца «ўласны спосаб жыцьця ў веры», і ня проста ў нейкай неакрэсьленай супольнасьці ці сукупнасьці вернікаў, але ў канкрэтнай Царкве, і пры гэтым яўна падкрэсьліваецца, што гаворка ідзе менавіта пра Царкву sui iuris.

Заўважым, што гэтае вызначэньне – адзінае кананічнае вызначэньне абраду, якое існуе. З яго вынікае, што для таго, каб нейкі комплекс «літургічнай, багаслоўскай, духоўнай і дысцыплінарнай спадчыны» мог, з кананічнага пункту гледжаньня, быць вызначаны як «абрад», неабходна, каб праз яго «ўласны спосаб жыцьця ў веры» быў выяўлены ў канкрэтнай Царкве sui iuris. Спадчына, у дачыненьні да якой гэтага не адбываецца, не адпавядае вызначэньню «абрад», і, наадварот, спадчына, якая прызнаецца ў якасьці «абраду» (як гэта засьведчае «Annuario Pontificio» ў дачыненьні да беларускай духоўнай спадчыны), як неабходнасьць служыць для выяўленьня ўласнага спосабу жыцьця ў веры ў канкрэтнай Царкве sui iuris. Іншымі словамі, найвышэйшая ўлада не разглядала б беларускую ўсходне-каталіцкую духоўную спадчыну як абрад, калі б гэтая спадчына не ажыцьцяўлялася ў канкрэтнай Царкве sui iuris. А паколькі яна прызнае, што беларускі абрад існуе, з гэтага вынікае і прызнаньне статусу sui iuris Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.

Кожнай Царкве sui iuris пры гэтым можа адпавядаць толькі адзін абрад. Гэта вынікае ўжо з самога вызначэньня абраду ў Кодэксе, дзе адзначана, што праз абрад хрысьціянская вера выяўляецца ў «кожнай» (лат. – «uniuscuiusque») Царкве sui iuris (г. зн. кожная Царква sui iuris мае спадчыну ў выглядзе «абраду», праз які яна і выяўляе свой спосаб жыцьця ў веры). Адной Царкве sui iuris ня можа адпавядаць некалькі розных «абрадаў» у кананічным сэнсе гэтага слова, бо кожнай Царкве sui iuris адпавядае свой абрад. На карысьць гэтага разуменьня сьведчыць наступнае:

1. Гэта знаходзіць пацьвярджэньне ў іншых нормах Кодэксу Канонаў Усходніх Цэркваў. Так, цэлы шэраг нормаў кажа пра «ўласны» абрад для дадзенай Царквы sui iuris ці яе ярарха (гл. напр. каноны 40, 41, 89 і інш.). Няма ніводнай нормы, дзе б гаварылася пра абрады той ці іншай Царквы ў множным ліку. Ахрышчаны некатолік, які прыходзіць да еднасьці з Каталіцкай Царквой, павінен прыпісацца

Працяг на с.12 ⇨

цыяй епархіяльнага біскупа. Адпаведна, калі ў нас няма праўна (кананічна) усталяванай япархіі і біскупа, ня можа быць ані парафіяў, ані цэлых акругаў (кан. 276), якія складаюцца з многіх парафіяў (у дадзеным выпадку – дэканатаў) на чале з протапрасьвітарамі. Значыць, для дзяржавы – ёсьць, а для Царквы – няма. Пра самыя словы, што менш важна, але таксама паказальна: усходняе права кажа пра акругі і протапрасьвітараў, але няма ніякіх дэканатаў (з тэрміналогіі лацінскага кодэксу) ці тым больш "протапрасьвітаратаў".

Я ўпэўнены, што слаўная некалі беларуская Уніяцкая Царква дэ факта ёсьць, так бы мовіць, містычна. На жаль, да гэтага часу яна не атрымала належнага кананічнага завяршэньня ў асобе біскупа ці Апостальскага адміністратара, а значыць яе няма дэ юрэ і яна не Царква *sui iuris*. Бяз біскупа няма Царквы, а даць яго нам можа толькі Рым, Апостальская Сталіца, раз ужо мы называемся ўсходняй каталіцкай Царквой. Прыгадваючы канон 57, які кажа, што заснаваньне, аднаўленьне і скасаваньне Цэркваў *sui iuris* належыцца выключна найвышэйшай царкоўнай уладзе, вядомы кананіст, рэдактар вялікага каментару на новы Ўсходні Кодэкс *"A Guide to the Eastern Code" (Rome, 2002, c.106)* Джордж Нэдунгат, як ня дзіўна, ужывае нашу Царкву як прыклад. Ён пацьвярджае маю думку, пішучы, што наяўнасьць Беларускай Царквы ў сьпісе Цэркваў sui iuris "хоць і ёсьць пэўнай формай вызнаньня, аднак як такая кананічна не ўсталёўвае гэтую Царкву як Царкву *sui iuris*". Далей ён адзначае: "У выніку рэлігійнага перасьледу, разгорнутага савецкім камунізмам, члены гэтай Царквы ўсё яшчэ раскіданыя *(так у тэксьце! – заўвага С.С.)* і яна яшчэ ерархічна не ўсталяваная. Калі нарэшце гэтая расьцярушаная Царква будзе забясьпечаная ярархіяй – што зьяўляецца істотным элементам Царквы *sui iuris* паводле канону 27, – будучы кананічна заснаванай, напрыклад, як япархія альбо экзархат, Царква Беларусі будзе вызнана як адна з "іншых Цэркваў sui iuris" *(тэхнічны тэрмін, маючы на ўвазе Цэрквы, якія не зьяўляюцца Патрыярхатамі, Вярхоўнымі Архібіскупствамі ці Мітрапалітальнымі Цэрквамі – заўвага С.С.)*, а агульная колькасьць Усходніх Каталіцкіх Цэркваў вырасьце з дваццаці адной да дваццаці дзьвюх. Калі ж, паводле нешчасьлівай гіпотэзы, гэтая нанова заснаваная япархія ці экзархат будзе далучаная да ўжо існуючай Царквы sui iuris, дык яна ня стане Царквой sui iuris".

Ці скончыцца гэтае нашае ўяўнае "расьцярушаньне"? Беларуская Царква павінна быць! І па-мойму, гэта ня нейкая ласка, а нашае сьвятое права, якога мусім дамагацца – права Царквой звацца. Як зрэшты, і людзьмі, калі вы мяне добра зразумелі.

***Размаўляў а. Алесь АЎДЗЯЮК***

# БГКЦ – Царква свайго права

⇨ Пачатак на с. 11.

ў «Царкву sui iuris таго ж абраду», у якім ён практыкаваў да прыяднаньня (кан. 35).

2. Такое разуменьне згоднае з кантэкстам навукі Другога Ватыканскага Сабора (яна заўсёды зьяўляецца вызначальнай пры разуменьні нормаў як лацінскага Кодэксу 1983 году, так і дзейснага ўсходняга Кодэксу 1990 году), дзе вызначэньне абраду паводле Кодэксу як «літургічная, багаслоўская, духоўная і дысцыплінарная спадчына» разглядаецца менавіта як прыкмета, што адрозьнівае адну ад адной розныя ўсходнія каталіцкія Цэрквы (а не іншыя супольнасьці – *гл. Orientalium Ecclesiarum, 3*). Пры гэтым Сабор канкрэтна згадвае і пра тое, што розныя Цэрквы адрозьніваюцца адна ад адной менавіта абрадам.

3. Нарэшце, гэта пацьвярджаецца і нормай канону 111 § 2 Кодэксу Кананічнага Права (лацінскай Царквы – *Рэд.*), якая апісвае ўсходнія Цэрквы менавіта як «абрадавыя Цэрквы sui iuris» *(Ecclesiae rituales sui iuris)*. Іншымі словамі, у адной Царкве sui iuris ня могуць ажыцьцяўляцца як «уласныя» два абрады, а значыць беларускі абрад ня можа ажыцьцяўляцца як «уласны» ні ў якой іншай Царкве sui iuris, акрамя як у беларускай. А без такога ажыцьцяўленьня, як мы паказалі, ён ня мог бы наогул звацца «абрадам».

Паколькі кананічна не існуе «абрадавай прыналежнасьці», а існуе толькі прыналежнасьць да Царквы sui iuris, а без Царквы sui iuris, у якой практыкуецца адпаведны абрад, немагчыма кананічна казаць пра яго як пра абрад, паняцьце абраду без адпаведнай Царквы sui iuris абсурднае. Фактычна, такі абрад ня мог бы існаваць, паколькі да яго ніхто ня мог бы належаць ні ў выніку хросту (які далучае не да абраду, а да Царквы sui iuris), ні ў выніку прыяднаньня да каталіцтва (якое ажыцьцяўляецца, паводле нормаў права, у Царкву sui iuris таго самага абраду). Нормы, накіраваныя на зьберажэньне і абарону абрадаў (каноны 39-41) заўсёды кажуць пра абарону і захаваньне абраду, «свайго» для канкрэтнай Царквы sui iuris, і не разглядаюць абарону абраду па-за гэтым кантэкстам. Без існаваньня Царквы sui iuris ніводны абрад ня мог бы існаваць, разьвівацца і карыстацца абаронай права ў Царкве. Фактычна, было б немагчыма казаць пра яго існаваньне.

Усё вышэйсказанае дазваляе зрабіць наступныя высновы: кананічнае існаваньне абраду непарыўна і неабходна зьвязана з існаваньнем адпаведнай яму Царквы sui iuris, і наадварот – Царква sui iuris заўсёды мае ўласны абрад. Такім чынам, з несумнеўнага кананічнага існаваньня беларускага абраду, які прызнаецца найвышэйшай царкоўнай уладай, як неабходнасьць вынікае і тое, што Царква гэтага абраду валодае статусам sui iuris.

**Пытаньне 2: Ці можа прызнаваная царкоўным правам Царква, якая мае свой абрад, ня быць Царквой sui iuris?**

Вышэй было паказана, што абрад, які прызнаецца царкоўным правам, заўсёды ажыцьцяўляецца ў адпаведнай Царкве sui iuris (з тым ці іншым канкрэтным унутраным уладкаваньнем).

Ці можа Царква, якая мае ўласны абрад і якая прызнаецца ў якасьці такой найвышэйшай царкоўнай уладай, не валодаць статусам sui iuris? Усё, сказанае вышэй пры адказе на першае пытаньне, дазваляе сказаць – не, ня можа. Царква, якая мае ўласны абрад, з неабходнасьцю мае статус Царквы sui iuris.

Гэтае тлумачэньне пацьвярджае і сам заканадаўца ў Апостальскай канстытуцыі «Sacri Canones» (ад 18 кастрычніка 1990 гады), якая суправаджае публікацыю Кодэксу Канонаў Усходніх Цэркваў. Там, у прыватнасьці, гаворыцца, ясна і недвухсэнсоўна пра ўвасабленьне ў Кодэксе «як ***пацьвярджэньня і падтрымкі кананічным правам уласных асаблівасьцяў усіх і кожнай з усходніх Цэркваў, так і іх статуса sui iuris,*** разам з іх поўнай сулучнасьцю з рымскім Пантыфікам, пераемнікам Пятра».

> *“Ніякіх актаў, якія скасоўвалі б беларускі грэка-каталіцкі Экзархат Сьвятым Пасадам, наколькі гэта вядома, не выдавалася. З моманту стварэньня Экзархату яшчэ не мінула ста гадоў, таму ён застаецца кананічна існуючым”*

Такое самае разуменьне і ў вядомага аўтарытэта ў вобласьці ўсходняга каталіцкага кананічнага права В. Посьпішыла, які кажа пра тое, што кожная з пералічаных у «Annuario Pontificio» усходніх каталіцкіх Цэркваў валодае статусам sui iuris, уключаючы і Беларускую *(Гл. Pospishil V., Eastern Catholic Church Law, 1996, pp. 110, 20-21).*

Такім чынам, кожная з прызнаваных найвышэйшай царкоўнай уладай Цэркваў, што маюць свой абрад, павінна разглядацца як Царква са статусам sui iuris. Вызначаючы абрад у кан. 28 сьледам за вызначэньнем паняцьця Царквы sui iuris у каноне 27 і, у пэўнай ступені, праз гэтае паняцьце, заканадаўца выразна ўзаемазьвязвае абрад і Царкву свайго права. Царква sui iuris вызначаецца як ерархічна ўладкаваная супольнасьць вернікаў, а абрад – як духоўная, літургічная, дысцыплінарная і багаслоўская спадчына, якой гэтая супольнасьць жыве. Няма Царквы sui iuris без абраду, і няма абраду без Царквы sui iuris. Цалкам справядліва і магчыма казаць пра тое, што «абрад» і «Царква sui iuris» – гэта, з кананічна-прававога пункту гледжаньня, два непадзельныя аспэкты адной і той самай складанай рэчаіснасьці, якія існуюць у повязі адзін з адным і адзін праз аднаго.

Такім чынам, Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква, маючы свой, прызнаны Сьвятым Пасадам абрад, і прызнаваная ім у якасьці адменнай «абрадавай Царквы», зьяўляецца Царквой sui iuris.

**Пытаньне 3: Ці адпавядае Беларуская Царква тым прававым крытэрам, якія царкоўны заканадаўца разглядае як істотныя, вызначаючы паняцьце «Цэрквы sui iuris»?**

Пярэчаньні для прызнаньня статусу sui iuris за Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквой (а да 2004 году – і за Расейскай Грэка-Каталіцкай Царквой) грунтуюцца на тым, што кан. 27 ККУЦ вызначае «Царкву sui iuris» як супольнасьць вернікаў, якая «аб'яднана ярархіяй згодна нормаў права». Сутнасьць пярэчаньняў у тым, што пры адсутнасьці ўласнай ярархіі немагчыма казаць пра захаваньне статусу sui iuris, нават калі да гэтага тая ці іншая Царква адпавядала ўсім крытэрам гэтага статусу.

Ці сапраўды гэты выраз можа быць прыняты як аргумент у выпадку Беларускай Царквы? На нашу думку – не. Кажучы «аб'яднана ярархіяй згодна нормаў права», заканадаўца, відавочна, мае на ўвазе не актуальную наяўнасьць свайго ярарха. У адваротным выпадку ў перыяд вакантнасьці ерархічнай катэдры асобнай Царквы sui iuris, што мае адзінага свайго ярарха, яна часова губляла б статус sui iuris, і зноў набывала б яго пры замяшчэньні катэдры (маецца на ўвазе – новы біскуп, які займае катэдру – *Рэд.*). Гэтая думка відавочна не адпавядае намеру заканадаўцы, паколькі (а) унесла б істотную неўпарадкаванасьць у вырашэньне царкоўных справаў і (б) паводле сэнсу канона 28, прыводзіла б таксама да часовага зьнікненьня адпаведнага абраду. Гаворка ў каноне 27, відавочна, ідзе пра наяўнасьць ерархічнага кіраваньня, г.зн. пра існаваньне ерархічнай пасады ці катэдры ў адпаведнай Царкве, іншымі словамі, пра існаваньне ерархічнай царкоўнай структуры, незалежна ад вакантнасьці ці запоўненасьці адпаведных пасад і катэдраў. Немагчыма казаць пра зьнікненьне статусу sui iuris у Царквы, у якой, з пункту гледжаньня права, існуе ерархічная структура (хоць бы яна і заставалася вакантнаю).

Таму, кажучы пра канкрэтную сітуацыю ў Беларускай Царкве, належыць адказаць на пытаньні: (1) Ці была заснавана для яе ерархічная структура? і (2) Ці працягвае яна кананічна існаваць у наш час, хоць бы і ў якасьці вакантнай? Станоўчы адказ на гэтыя пытаньні будзе азначаць, што патрабаваньне Кодэксу пра «аб'яднаньне ярархіяй згодна нормаў права» для Беларускай Царквы выканана.

1. Перш за ўсё належыць паказаць, што, дзейнічаючы на моцы паўнамоцтваў, атрыманых раней ад Сьвятога Пасаду, мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі ў 1939 годзе



# Пра шабат і сьвяткаваньне нядзелі

***У Біблії напісана, што трэба сьвяткаваць суботу. Чаму тады для хрысьціянаў сьвятым днём зьяўляецца нядзеля?***

**Аляксандар Іванавіч,** *г. Горадня*

Сьвяткаваньне нядзелі – гэта старажытны хрысьціянскі звычай, які паходзіць з часоў апосталаў. Узгадкі пра гэты звычай мы знаходзім у Новым Запавеце. У “першы дзень тыдня” (паводле габрэйскага лічэньня, бо сёмы дзень – гэта субота) вучні ў Траадзе зьбіраліся на Еўхарыстыю – “ламаньне хлеба” *(Дз 20, 7-13).* Важным быў гэты дзень для карынцянаў *(1 Кар 16, 2)*. На пачатку II стагоддзя рымскі губернатар правінцыі Віфінія Пліній Малодшы пісаў, што хрысьціяне зьбіраліся ў гэты дзень і сьпявалі гімны да Хрыста. У першыя стагоддзі нядзеля не была днём вольным ад працы, таму хрысьціянам даводзілася зьбірацца да ўзыходу сонца, каб пасьпець выконваць свае штодзённыя працы. Дзень пасьля суботы хрысьціяне пачалі называць таксама “дзень Госпада” (хоць у габрэйскай традыцыі так называлася субота), бо “Ісус Хрыстос ёсьць Госпад” *(Флп 2, 11).*

Аднак сьвяткаваньне нядзелі – гэта ня толькі звычай, але і Божае прыказаньне, якое бярэ свой пачатак у Старым Запавеце, у загадзе “сьвяткаваньня суботы”. Габрэйскае слова, якое ў сінадальным расейскім перакладзе Сьвятога Пісаньня (а таксама ў беларускім перакладзе Васіля Сёмухі) тлумачыцца як “субота”, некаторыя сучасныя пераклады пакідаюць бяз зьменаў – “шабат”. Для габрэяў у часы Старога Запавету сьвяткаваньне шабату было ня проста адзначэньнем пэўнага дня тыдня, але ў першую чаргу ўспамінам важных падзеяў з Гісторыі Збаўленьня. Шабат быў успамінам пра стварэньне сьвету і адпачынак Бога на сёмы дзень. Таксама ў шабат узгадвалася выйсьце габрэяў з Ягіпту. Кніга Другога закону тлумачыць, чаму трэба сьвяткаваць шабат: “Памятай, што быў рабом у зямлі Ягіпецкай, але Госпад, Бог твой, вывеў цябе адтуль рукою моцнаю і мышцаю высокаю, таму і загадаў табе Госпад, Бог твой, сьвяткаваць дзень шабату” *(Друг 5, 15).*

Для хрысьціянаў разуменьне прыказаньняў і звычаяў Старога Запавету адбываецца ў сьвятле асобы і справы Ісуса Хрыста. У першыя стагоддзі, асабліва ў асяроддзі, зьвязаным з габрэйскім народам, хрысьціяне захоўвалі звычай сьвяткаваньня суботы. Аднак паступова на першы план выходзіў дзень уваскрасеньня Хрыста – нядзеля, бо ў гэты дзень адбыліся дзьве найважнейшыя падзеі Новага Запавету – Уваскрасеньне Ісуса Хрыста і Зыход Сьвятога Духа. Гэта не азначае, што адбылася замена аднаго сьвяточнага дня іншым. Сьвяты Рыгор Вялікі пісаў, што для хрысьціянаў сапраўдным шабатам зьяўляецца Асоба Ісуса Хрыста. Таму нядзеля стала днём больш важным за суботу.

Сьвяткуючы нядзелю, мы ня проста адзначаем пэўную гістарычную падзею – Уваскрасеньне Ісуса Хрыста. Нядзеля – гэта таксама выкананьне ўсіх тых вобразаў, якія паказваў нам старазапаветны шабат. Варта памятаць, што паводле габрэйскага лічэньня дзён тыдня нядзеля – гэта першы дзень. Айцы першых стагоддзяў параўноўвалі нядзелю з першым днём стварэньня. У першы дзень Бог пачаў ствараць сьвет, у першы ж дзень пасьля шабату Бог зьдзейсьніў новае стварэньне – адкупіў чалавецтва праз Уваскрасеньне Ісуса Хрыста. У гэты ж дзень Дух Сьвяты сышоў на апосталаў, і гэта было апошняе вялікае дзеяньне Бога, як бы дапаўненьне стварэньня. Айцы называлі нядзелю таксама восьмым днём тыдня, падкрэсьліваючы, што Ўваскрасеньне – гэта таксама пачатак новай эры, а таксама апошні дзень стварэньня, дапаўненьне апісанага ў кнізе Быцьця. Уваскрасеньне Ісуса Хрыста – гэта вызваленьне чалавецтва з нявол іграху. Таму нядзелю хрысьціяне сьвяткуюць і як новы Выхад, аналагічны да Выхаду Ізраіля з Ягіпту.



*• Прыміцыйная Літургія а. Антона Нікалаева, CSsR у Берасьці.*

У рымскай культуры нядзеля называлася “днём сонца” (гэтая назва захавалася да сёньня ў некаторых мовах). Можна сказаць, што Царква “ахрысьціла” і гэтую назву. Хрыстос – гэта “Сьвятло сьвету” *(Ян 9, 5),* “Усход з вышыні” *(Лк 1, 78),* “сьвятло на прасьвятленьне паганаў” *(Лк 2, 32)*. У нашай візантыйскай літургічнай традыцыі падчас службы Вячэрні Хрыста мы называем “Сьвятлом лагодным”. Таму, як напісаў Ян Павел II, нядзеля – гэта дзень Хрыста-Сьвятла.

**а. Андрэй КРОТ,** *г. Горадня*

заснаваў асобны Экзархат Апостальскай Сталіцы ў якасьці кананічнай структуры для беларускіх грэка-каталікоў. У 1941 годзе Сьвяты Пасад зацьвердзіў стварэньне Экзархату *(Гл.: Митрополит Андрей Шептицький і греко-католики в Росії: книга 1, дак. №143, с. 357-364; там жа, дак. №135, с. 331-332).* Такім чынам, уласная кананічная структура для Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы была заснавана.

2. Паводле нормаў кананічнага права, будучы заснаванай, япархія ці экзархат ipso iure набываюць правы і статус юрыдычнай асобы ў Царкве (кан. 921 § 2 ККУЦ). Нават калі адзін член калегіяльнай юрыдычнай асобы (сукупнасьці асобаў, якімі, паводле нормаў права, зьяўляюцца ўсе япархіі і экзархаты) застаецца ў жывых, за ім захоўваюцца ўсе правы і абавязкі дадзенай юрыдычнай асобы (кан. 925). Нарэшце, юрыдычная асоба спыняе існаваньне ці ў выніку відавочнага рашэньня царкоўнай улады, якая яе заснавала, ці праз факт свайго неіснаваньня на працягу ста гадоў (кан. 927). Ніякіх актаў, якія скасоўвалі б беларускі грэка-каталіцкі Экзархат Сьвятым Пасадам, наколькі гэта вядома, не выдавалася. З моманту стварэньня Экзархату яшчэ не мінула ста гадоў, таму ён застаецца кананічна існуючым.

Трэба таксама адзначыць, што ярархі Цэркваў sui iuris, якія не зьяўляюцца Патрыярхатамі, Мітраполіямі ці Вярхоўнымі Архібіскупствамі, лічацца непасрэдна залежнымі ад Сьвятога Пасаду, які выконвае ў дачыненьні да іх функцыі іхняга найвышэйшага ярарха; іх уласны першаярарх узначальвае іх на правах дэлегата Апостальскага Пасаду (кан. 175). Такім чынам, нават у выпадку вакантнасьці іх ерархічнай структуры яны, тым ня менш, аб'яднаны вакол найвышэйшага ярарха ў асобе Рымскага біскупа, ад якога наўпрост і залежаць.

Іншымі словамі, Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква мае сваю ерархічную структуру, хоць бы і вакантную, а таксама залежыць ад Сьвятога Айца як ад свайго найвышэйшага ярарха (які выконвае ў адносінах да яе функцыі, адпаведныя функцыям патрыярха, мітрапаліта ці вярхоўнага архібіскупа), а значыць павінна быць прызнана, што яна «аб'яднана ярархіяй згодна нормаў права» і адпавядае крытэрам канону 27 ККУЦ ці, іншымі словамі, павінна быць прызнана Царквою sui iuris.

***Такім чынам, аналіз усіх нормаў кананічнага права, якія маюць дачыненьне да статусу Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, дазваляе сказаць, што яна зьяўляецца Царквой sui iuris або, прынамсі, што такое меркаваньне мае важкія кананічныя падставы. Апошняе дазваляе дзейнічаць зыходзячы з справядлівасьці гэтага меркаваньня, калі гэта ня будзе ўступаць у супярэчнасьць з наступнымі рашэньнямі Апостальскага Пасаду.***



# Валанцёрскі рух сьв. Мікалая

***Хрысьціянскі валанцёрскі рух сьв. Мікалая, што існуе пры грэкакаталіцкай парафіі г. Віцебска, зьяўляецца царкоўнай ініцыятывай сацыяльнага служэньня. Заснаваны ўвосень 2007 году, сёлета адзначае свае другія ўгодкі. Рух яднае людзей добрай волі незалежна ад канфесійнай прыналежнасьці, што жадаюць служыць Богу праз дапамогу людзям, якія яе патрабуюць.***

Галоўнымі нашымі прыярытэтамі зьяўляюцца: дапамога бліжняму (бескарысьліва дапамагаць людзям у патрэбе), евангелізацыя (дапамагаць іншым людзям прыходзіць да Бога праз прапаведаньне Евангельля Божага і ўчынкі любові і міласэрнасьці), сьведчаньне (дапамагаць і дзяліцца сваім досьведам з кожным, хто хацеў бы бескарысьліва служыць Богу і людзям у любові і міласэрнасьці).

Аднак любая сацыяльная дзейнасьць немагчыма без падрыхтаваных людзей. З гэтай прычыны рух мае сваю “Школу валанцёра”, пад якой разумеецца комплекс мерапрыемстваў, што дапамагаюць азнаёміцца, навучыцца і набыць валанцёрскі вопыт. Удзельнікі руху вучацца суправаджаць людзей на інвалідных калясках, здабываюць практычныя веды па аказаньні першай дапамогі, а таксама засвойваюць навыкі працы з дзецьмі-сіротамі, састарэлымі і людзьмі з абмежаванымі магчымасьцямі. Галоўным накірункам зьяўляецца духоўная хрысьціянская падрыхтоўка валанцёраў.

У нашых планах – паступова расказаць пра нашае сацыяльнае служэньне. А яшчэ – абавязкова пазнаёміць з нашымі валанцёрамі і людзьмі, якія патрабуюць нашай увагі і дапамогі.

**а. Алесь ШЫБЕКА,** *г. Віцебск*

# Восеньскі баль

***Сапраўдныя восеньскія балі ладзіліся для людзей з абмежаванымі магчымасьцямі і састарэлых у Тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўваньня насельніцтва Першамайскага раёну г. Віцебска 25 і 27 лістапада 2009 году. Мерапрыемствы былі арганізаваныя Хрысьціянскім валанцёрскім рухам сьв. Мікалая сумесна з працаўнікамі цэнтру на чале з дырэктарам спн. Тацянай Старынскай.***

“Нас цікавяць любыя новыя формы работы, таму мы рады супрацоўнічаць з валанцёрскім рухам”, – адзначыла дырэктар Тэрытарыяльнага цэнтру сацыяльнага абслугоўваньня на_ сельніцтва. Праграма двухдзённага “Восеньскага балю” складалася з гульняў, конкурсаў, простых пытаньняў на эрудыцыю, сцэнак і танцаў. Але галоўным для людзей з абмежаванымі магчымасьцямі, а таксама ветэранаў і састарэлых былі знаёмствы, размовы і нарэшце пошук новых сяброў, якія ня бачаць у цябе фізічных заганаў, а ўспрымаюць такім, які чалавек ёсьць. Так за выдатную імправізацыю песьні атрымаў ганаровае званьне “Песеннага караля балю” Дзьмітры Жырнель. За актыўны ўдзел у конкурсах і танцах карону і тутул караля і каралеўны балю атрымалі Мікалай Надзежка і Юлія Нагорская, а таксама права ўзнагароджваць астатніх удзельнікаў мерапрыемства граматамі і прыемнымі падарункамі. У выніку ніхто не застаўся па-за ўвагай.





• *Шчасьлівыя ўдзельнікі падчас «Восеньскага балю» для састарэлых і непаўнаспраўных у Віцебску.*





*Я нарадзілася ў палескай вёсачцы на Пінішчыне, сярод векавечных бароў і маўклівых, таемных балот. Працавала настаўніцай, выхоўвала і трое сваіх дзетак, якіх даравал мне Бог. Люблю жыцьцё, люблю сваю радзіму – Палесьсе.*

*Калі бывала ў Пінску, з асаблівай узьнёсласьцю ўспрымала дотык да сьценаў Пінскага калегіюму езуітаў, дзе ў канцы XIX стагоддзя месьціўся базыльянскі манастыр Уніяцкай Царквы, які нёс у наш лясны край веру Хрыста і, нават, сьвятло сьвецкай адукацыі.*

*Мае вершы – гэта хваляваньне маёй душы, мае думкі.*



**Ніна КАХНОВІЧ,** *парафіянка з Віцебску (в. Андронавічы)*

## Самота

Я пашлю прывітаньне дадому,
Дзе бярозы старыя растуць…
Можа там я ня трэба нікому,
Але сэрца імкнецца ў кут,
Дзе жылі мая мама і тата,
Дзе даўніну вартуюць крыжы…
У тым вітаньні адзінае слова:
Настальжы…

Я пашлю прывітаньне дадому
З журавамі, што ў небе крычаць.
Не вярнуць мне ніколі былога,
Зноў з дзяцінства жыцьцё не пачаць…
Я хачу растварыцца ў тумане,
Кропляй стаць у палескім дажджы…
Маім крылам, шкада, не ўзьняцца…
Настальжы, настальжы…

А лепшымі падарункамі для валанцёраў сталі ўсьмешкі на тварах усіх прысутных і хрысьціянская атмасфера дабрыні і любові, вельмі важная для ўсіх людзей, а асабліва з абмежаванымі магчымасьцямі. Арганізатары і ўдзельнікі спадзяюцца, што супрацоўніцтва Цэнтру сацыяльнага абслугоўваньня насельніцтва і валанцёрскага руху сьв. Мікалая будзе працягвацца. Пра ўдалы пачатак кажа таксама і тое, што падчас гэтых мерапрыемстваў на працягу больш за дзьве гадзіны цікаўнасьць удзельнікаў не зьмяншалася. Людзям сталага ўзросту было прыемна знаходзіцца ў кампаніі хрысьціянскай моладзі, якая паводзіць сябе шчыра і проста. У сваю чаргу, дзядулі і бабулі прасьпявалі валанцёрам песьні сваёй маладосьці, зухавата танцавалі, чыталі вершы.

Вельмі сымбалічна, што “Восеньскі баль” адбыўся напярэдадні Міжнароднага дня інвалідаў, але ў валанцёраў не было мэты прывязаць мерапрыемства да пэўнай даты, бо сваё дабрачыннае служэньне яны нясуць у звычайныя буднія дні, не даючы ў жыцьцё гэтых людзей прабрацца самоце, комплексам і смутку.

**Ірына ЛОБАН,** *г. Віцебск*

## Сьвяты Мікалай

Прыйшла зіма і цуды творыць:
Шле маразы і сыпле сьнег.
А сам Мікола Цудатворац
Шчыруе дзецям для пацех.

Нясе вялікі мех чырвоны,
У боты цёплыя абут.
Ад сьнегу белы кій і скроні,
І хутка зьявіцца ён тут.

Разьвяжа мех свой адмысловы
З усьмешкай сьветлаю сваёй
І скажа ветлівыя словы,
Кіўнуўшы сівай галавой.

Частуйся, хлопчык і дзяўчынка,
Сьвяткуйце Божае Раство,
Алёша, Каця і Палінка,
Чувайце Сьвята хараство.

Тут абаранак ёсьць і пернік,
Духмяных булачак пакет,
І журавінаў слоік сьпелых,
Бісквітна-крэмавы рулет.

Смакуйце, ешце, ну а потым
Мы станем дружна ў карагод
І будзем танчыць аж да поту
І славіць Госпада прыход!

## Божае Нараджэньне

Нарадзіла жанчына
Шмат стагоддзяў назад
Найсьвяцейшага Сына.
Бог-Айцец Яму рад.

Бэтлеемская зорка
З заміраньнем глядзіць –
Божы Сын адвячоркам
Нарадзіўся і сьпіць.

Хэрувімы сьпявалі
Яму песьні з нябёс,
І анёлы люлялі:
Сьпі, Збавіцель Хрыстос.

«Сьпі малое Дзіцятка, –
Маці Сыну пяе, –
Хай Табе, Немаўлятка,
Бог здароўе дае».

Быў Ісусам названы
Гэты Хлопчык малы.
Ён Сьвяцейшыя Планы
Зьдзейсьніў з Божай хвалы.

Рады мы, усе людзі:
Ёсьць Заступнік у нас.
Шчасьцем поўняцца грудзі
У гэты дзень, усякі раз.

**Яўгенія КАЗЛОВА,** *г. Ворша*



*«Зірнём на калядны вярцеп: Багародзіца і сьв. Язэп не выглядаюць на вельмі шчасьлівую сям’ю; іх першынец нарадзіўся ў вялікай нястачы; нягледзячы на гэта яны поўныя глыбокай радасьці, таму што яны любяць адзін аднаго, дапамагаюць адзін аднаму, але найперш таму, што яны ўпэўнены, што ў іх гісторыі дзейнічае Бог, які прысутнічае ў маленькім Ісусе. А пастухі? У чым прычына іх радасьці? Ці ж можа гэты Нованароджаны, здавалася б, неяк паўплываць на іх жыцьцё, што праходзіць у беднасьці і пакінутасьці? Аднак вера дапамагае ім убачыць у гэтым «Дзіцятку ў пялюшках, што ляжыць у ясьлях», «знак» выкананьня абяцаньняў Бога для ўсіх людзей, «якіх Ён упадабаў» (Лк 2: 12, 14), таксама і для іх!»*

*Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI.*
*Прамова падчас малітвы «Анёл Гасподні», 13 сьнежня 2009 г.*







• Віцебск. Валанцёры з руху сьв. Мікалая праводзяць духоўна-малітоўную сустрэчу для непаўнаспраўных.

# Сьведчаньне любові і веры разам

***Ужо стала традыцыяй для валанцёрскага руху сьв. Мікалая ў Віцебску прыкладна раз на месяц праводзіць духоўна-малітоўныя сустрэчы для непаўнаспраўных людзей. Большасьць з іх – удзельнікі клубу для асобаў з абмежаваньнямі псіхафізічнага разьвіцьця “Бэтэль-Карытас”, які ўзначальвае парафіянка з Віцебску Зоя Коршунава.***

Галоўнымі арганізатарамі і незаменнымі вядучымі гэтых сустрэчаў выступаюць валанцёры Кацярына Цыганова і Валянціна Аўсяньнікава. Кожны раз далучаюцца таксама і іншыя ўдзельнікі руху, дапамагаючы людзям з абмежаванымі магчымасьцямі дабрацца да царквы, а потым – непасрэдна правесьці сустрэчу. У выніку шчырая, утульная, сяброўская атмасфера, малітва і евангелізацыйны аповед даюць такім людзям веру, што яны знаходзяцца пад непасрэднай апекай Маці Божай і Госпада нашага Ісуса Хрыста.



Праца з непаўнаспраўнымі, якія часта забываюць пра Бога, нялёгкая. Але валанцёры рыхтуюцца да такіх сустрэчаў, выкарыстоўваючы розныя формы працы – заняткі, гульні, малітвы.

Апошняй тэмай духоўна-малітоўнай сустрэчы стала тэма граху ў нашым жыцьці (да гэтага разглядаліся: “Малітва”, “Ісус”, “Ісус – мой Цар”). Валанцёры паказалі сцэнку пра спакушэньне зьмеем Адама і Евы і выгнаньне іх з раю; распавялі, як дзейнічае грэх у нашым жыцьці; наглядна, з дапамогаю выразанага з белай паперы чалавечка і шпрыца з чорнай фарбай, паказалі, як забруджваецца чыстая душа пад узьдзеяньнем грахоў. Кацярына Цыганова падрабязна расказала пра сьмяротныя грахі – пыху, хцівасьць, зайздрасьць, гнеў, распусту, неўмеркаванасьць у ежы і піцьці, ляноту. Быў і яшчэ адзін наглядны эксьперымент: непаўнаспраўныя клеілі на намаляванае сэрца Ісуса Хрыста кавалачкі чорнай паперы, што ў цэлым сымбалізавала тое, як ставіцца чалавек да Бога, калі грашыць. Цікавым для ўсіх прысутных стаўся аповед і сымбалічная ілюстрацыя з дапамогай каляровай тканіны пра тое, як Ісус узяў чалавечыя грахі на сябе (чорны колер), амыў іх Сваёю крывёю (чырвоны колер), пакутаваў на крыжы (крыж і цярновы вянец), але ў выніку душа чалавека можа быць чыстай (белы колер) праз таямніцы споведзі і Еўхарыстыі.

Сустрэча як заўсёды скончылася размовай за кубачкам гарбаты, а яе ўдзельнікі змаглі падзяліцца пачутым і ўбачаным.

Валанцёры заўважылі духоўны плён такіх мерапрыемстваў. У сваім звычайным жыцьці людзі з абмежаванымі магчымасьцямі таксама ведаюць адзін аднаго, але нярэдка сварацца, зайздросьцяць адзін аднаму. А падчас правядзеньня такіх сустрэчаў разважаюць па-сутнасьці над сабою, над сваім жыцьцём, вучацца маліцца ды і проста знаходзіцца ў царкве. Практычнае сьведчаньне любові і веры адбываецца разам, а гэта ёсьць адна з галоўных мэтаў хрысьціянскага служэньня.

**Ірына ЛОБАН,** *г. Віцебск*

# Практыка начных чуваньняў будзе працягвацца...

***У ноч з 21 на 22 лістапада 2009 году ў грэка-каталіцкай парафіі Ўваскрасеньня Хрыстова г. Віцебска адбылося чарговае начное моладзевае чуваньне, якое было прысьвечана сьвяту Ўваходу ў сьвятыню Багародзіцы. Моладзь розных канфесіяў ужо ня першы раз зьбіраецца на ўзмоцненую начную малітву.***

Чуваньне як заўсёды распачалося Вячэрняй, пасьля чаго а. Алесь Шыбека чытаў разважаньні Тамаша Кемпійскага, распавёў пра значэньне асобных частак Службы Божай. Моладзь у сваю чаргу разважала над часткамі літаніяў. Потым усе разам маліліся Ружанец, а таксама ў асабістых інтэнцыях. Па традыцыі зьдзейсьнілі шлях на Юр’еву горку з запаленымі сьвечкамі, дзе памаліліся за горад Віцебск. Падчас “чаёвай паўзы” размаўлялі на духоўныя тэмы. Практыка начной малітвы надала прысутным моц найбольшай духоўнай сканцэнтраванасьці, моманты пэўнага евангелізацыйнага адкрыцьця і перажываньня асабістага жыцьця ў еднасьці з Хрыстом.

Чуваньне скончылася ранішняй Літургіяй. Моладзь, якая ня ў першы раз прысутнічае на начной малітве, упэўнена, што ласка Божая і моц Духа Сьвятога сыходзяць на тых, хто моліцца, а таксама на тых, за каго моляцца. Таму практыка начных чуваньняў будзе працягвацца.

**Ірына ЛОБАН,** *г. Віцебск*



• Начное чуваньне моладзі ў Віцебску.



*На старонках «Царквы» мы вырашылі зьмяшчаць цікавыя думкі і выказваньні з «Жывога Журналу» ў інтэрнэце. Гэтыя думкі і перажываньні карыстальнікаў «ЖЖ», адшуканыя і падрыхтаваныя Надзеяй Ярмішынай, падаліся нам цікавымі і вартымі, каб пазнаёміць з імі іншых. У сваіх дзёньніках іх аўтары разважалі пра паклікаНьне, малітву, пра грэх і пра сьвятасьць, пра любоў і пра ўдзячнасьць, пра прыгажосьць. Розныя думкі. Можна ўзгадаць самога сябе і свой вопыт адносінаў з Богам і сьветам, што вакол нас. З імі можна пагаджацца ці спрабаваць аспрэчваць. Не судзіце строга. Бо адзінае, што аб’ядноўвае гэтыя выказваньні, – шчырасьць.*

### • Шлях болю і шлях радасьці

Боль і пакуты неабходныя, калі душа ўпіраецца, супраціўляецца і чыніць перашкоды волі Божай у адносінах да яе. Калі Бог кліча да Сябе, да любові і сьвятла, а душа прагне толькі асабістых задавальненьняў і эгаістычных радасьцяў, не жадае, каб зачапалі яе і дзеля ўласнага супакою хаваецца ў шкарлупіну. Вось тады ў жыцьці атрымліваецца боль і стрэс, якія ламаюць гэтую шкарлупіну. Але калі душа пагаджаецца зрабіць крок, згодна з Ягонай воляй, куды заўгодна, таму што яе паклікаў Бог і Яму так трэба, такой душы няма сэнсу пакутаваць – тады гэта шлях радасьці. Я за згоду, прыняцьце, радасьць. А далей – як атрымаецца…

*(gua-nyin / Натальля Вараніцына)*

### • Быць вінным...

Чалавек, які ня любіць Бога, нічога Яму ня вінны. У гэтым закон свабоды. Гасподзь даў чалавеку свабоду любіць альбо не любіць. Верыць альбо ня верыць. Служыць альбо не служыць. Калі было б іначай – Сусьвет быў бы не каштоўнейшы за цацку і нішто ў прыродзе (уключаючы самога чалавека) ня мела б сэнсу. А Бог надаў і працягвае надаваць сэнс усяму, што творыць. Гасподзь і дагэтуль дарам спасылае сонца і дождж як на злых, так і на добрых. Гэта дарунак, за які Бог нічога не патрабуе ўзамен. Таму чалавек Яму нічога ня вінны. І гэта шлях сьмерці.

Але калі чалавек пачынае любіць Госпада, тады ён становіцца Яму вінаватым. Нават калі тая любоў існуе толькі ў форме самага першага выбару – слабога і няўпэўненага. Усё адно яна робіць чалавека вінаватым за ўсё, што ёй не адпавядае. І чым больш чалавек любіць, тым больш ён вінны. Страшна, пакутліва і несправядліва! Але ў гэтым праўда. І толькі праз гэта пралягае шлях жыцьця. Усё астатняе прыходзіць у нягоднасьць – раней ці пазьней... Усё астатняе – шлях сьмерці.

Гасподзь можа прыняць, панесьці і даравацъ любыя правіны, якія мы маем. І гэта робіць нас блізкімі і роднымі. Калі мы нічога Богу ня вінныя, то Ён застаецца для нас чужым. І мы яму тады чужыя.

Нам усім у той ці іншай ступені ўласьцівы страх быць вінаватымі. І гэты страх вядзе нас на сьцяжыну сьмерці. Але калі зусім пазбавіцца ад гэтага страху, то што тады будзе ў нас чыніць надзорак, каб не грашылі? Божае дараваньне тады будзе нам надзоркам! Госпадзе, дай нам сілы не баяцца быць віннымі Табе. І прабач нам даўгі нашыя!

*(volny_licwin / Алесь Сьпіцын)*

### • Трошкі пра любоў

Любоў – шматгранны крышталь, які не перастае раскрываць свае грані тым, хто просіць. Жыцьцё набывае новы сэнс, ты нібыта пазнаеш усё нанова, ты бачыш схаваныя скарбы, адчуваеш незвычайную моц, не баішся зусім анічога, а хочаш толькі растварыцца ў гэтай плыні любові. Калі ты любіш – у табе вельмі многа Божага. Калі ты любіш – ты адно з Богам, таму што Ён і ёсьць Любоў, і, знаходзячы яе, ты знаходзіш Бога, становішся часьцінкай бязьмежнага Сусьвету, ён увесь можа зьмясьціцца ў тваім сэрцы. Няма нічога мацней за гэта, таму што толькі ў любові ты пачынаеш Бачыць. Толькі ў Любові адкрываеш вочы і адкрываеш сябе. Духоўная любоў не згасае, а расьце і становіцца мацнейшай з кожным днём, таму што гэта Любоў, якая адкрываецца, калі мы прымаем Хрыста і называем Яго сваім Госпадам і Настаўнікам, і чым больш мы любім Яго, тым больш любові паміж намі. І чаго тады мы можам баяцца? Выпрабаваньняў? Цяжкасьцяў? Тое, што мы атрымалі – непамерна важнейшае і вельмі рэальнае. І не баючыся нічога, неадрыўна гледзячы на Яго, трымаючыся сваёй Любові, мы пройдзем праз усё – па любой вадзе, праз любы агонь…

*(inessa_sunrise / Агнэса)*

### • Пра ўдзячнасьць

Сучаснае чалавецтва не шануе таго, што яму дадзена, ня бачыць свайго натуральнага і духоўнага багацьця; не бярэ са свайго ўнутранага сьвету таго, што там закладзена. Яно шануе ня ўнутраную моц духа, а зьнешнюю ўладу – тэхнічную і дзяржаўную. Яно хоча не ствараць і ўдасканальваць, а валодаць і атрымліваць асалоду. І таму яму заўсёды і ўсяго мала: яно лічыць свае “страты” і наракае. Яно апантанае сквапнасьцю і зайздрасьцю, і нічога ня ведае пра ўдзячнасьць.

Спадзяюся, чалавецтва знойдзе шляхі, якія вядуць да абнаўленьня, паглыбленьня, захапленьня. Але для гэтага яно павінна навучыцца ўдзячнасьці і на ёй будаваць сваё духоўнае жыцьцё. І кожнаму з нас трэба вучыцца ўдзячнасьці. Варта нам толькі адкрыць вочы і прыгледзецца да жыцьця – і мы ўбачым, што кожнае імгненьне нібыта выпрабоўвае нас, ці сасьпелі мы да ўдзячнасьці, ці умеем мы дзякаваць…

*(inessa_sunrise / Агнэса)*

### • Пра шчасьце

Напэўна, шчырае перажываньне жыцьця, сваёй прысутнасьці ў гэтым сьвеце нараджаецца тады, калі не хапаешся за шчасьце, ня прагнеш у любы спосаб завалодаць ім, не вырываеш сілком у іншага, а калі атрымліваеш тое шчасьце на кароткі час, то не прыніжаеш самоты іншага чалавека... Не зайздросьціш, не шукаеш свайго... Жывеш з удзячнасьцю за ўсё – за радаснае ці сумнае, прымаеш і адпускаеш усіх з усьмешкай...

*(don_bosko / Ільля Астапаў)*

### • Славалюбства

Славалюбства і жаданьне прызнаньня ад іншых – гэта дзіця блуду. Яно нараджаецца з неасьвечанай духам жывёльнасьці, якая прысутнічае ў чалавеку. Гэта адна з тых страсьцяў, якія супрацьстаяць ляноце і могуць стацца рухавіком на шляху. Але ня доўга ім завесьці на няправую сьцяжыну.

Жаданьне славы ад зямной Царквы не нашмат лепей за жаданьне славы ад сьвету. Як бы добра было, калі б слава, прадугледжаная для нас Міласэрнасьцю, чакала нас у Госпадніім веку, а ня зараз. Толькі як цяжка для грэшнага чалавека на яе спадзявацца. І як цяжка вызначыць слушнасьць сваіх справаў, ня маючы за іх ні славы, ні падзякі.

Госпадзе, як мне навучыцца быць удзячным за тое, што не атрымліваю ўзнагароды за сваю працу ў гэтым распусным веку?

Госпадзе, як мне навучыцца спадзявацца на тое, што Ты адплаціш мне, як і ўсім нам, паводле Тваёй Міласэрнасьці?

Госпадзе, як мне навучыцца цаніць узнагароду веку вечнага больш за ўзнагароду веку распуснага?

Госпадзе, як мне навучыцца не патрабаваць падзякі?

Госпадзе, як мне навучыцца вызначаць праведнасьць сваіх справаў не паводле славы, якую яны прыносяць?

*(volny_licwin / Алесь Сьпіцын)*

### • Асалода імгненьня

Ёсьць імгненьне, калі вы складваеце рукі і падыходзіце да чашы. Вы прымаеце прычасьце. Гэта асаблівае імгненьне. Але кожнае імгненьне можа быць такім. Перад чашай мы спыняемся, заміраем – і адбываецца цуд. Але, можа быць, цуд таму і адбываецца, што мы заміраем? Можа быць, цуд заўсёды з намі, але мы ня бачым яго, бо не заміраем? Проста мы ня складваем рукі. А што ў гэтым жэсьце? Глыбокі давер да Бога, давер да ўсяго, што Ён даў чалавеку. Звычайна, калі размахваеш рукамі, то падымаеш пыл вакол сябе. Як тады адчуць водар жыцьця, калі вакол – адзін пыл. І мы дыхаем пылам. Пылам мітусьлівых думак. І ў гэтым пыле праходзіць нашае жыцьцё. Калі ж нарэшце мы перастанем махаць, складзем рукі, і скажам: “Госпадзе, я давяраю Табе, што б ні адбывалася зараз. Няхай падаюць сьцены вакол мяне, падаюць метэарыты, прачынаюцца вулканы. Я Табе давяраю. Гэта неспасьцігальна для мяне. Я давяраю Табе, нават знаходзячыся ў віхуры зла, якое творыцца вакол мяне. Я давяраю Табе…”

*а. Ільля Дарагойчанка*

# Крыж, які яднае хрысьціянаў

***У нядзелю, 27 верасьня 2009 году, сьвятары трох канфесіяў (рыма-каталік, грэка-каталік і праваслаўны) удзельнічалі ва ўрачыстым асьвячэньні прыдарожнага крыжа ў вёсцы Салацьце Гарадзенскага раёну, што амаль на самай мяжы з Літвой. Крыж вырабілі і ўсталявалі гарадзенскі майстар-каваль грэка-каталік Юры Мацко і прадпрымальнік Юры Рэмша – праваслаўны. Абодва яны маюць у гэтай вёсцы дамы.***



На сьвята сабраліся амаль усе жыхары невялічкай вёскі, пераважна каталікі. Храмаў у вёсцы няма, і таму, каб асьвяціць крыж і гэтае новае месца малітвы на прыгожым пагорку каля лесу, прыехалі душпастыры з суседняга мястэчка Парэчча – манах-рэдэмптарыст айцец Раман Цесьляк, які апякуецца мясцовымі каталікамі, і праваслаўны бацюшка Андрэй Русак, а з Горадні на асьвячэньне крыжа быў запрошаны грэка-каталіцкі сьвятар Андрэй Крот.

Усталяваны крыж у вёсцы Салацьце вельмі незвычайны, вялікіх памераў. Аснова яго – дрэва старога дуба, а на ім прымацаваны выкаваны Юрасём Мацко стылізаваны крыж сьвятога Бенядыкта – заснавальніка заходняга манаства, якога шануюць ня толькі каталікі абодвух абрадаў, але і праваслаўныя. Як адзначыў падчас вясковых урачыстасьцяў а. Раман Цесьляк, які зьдзейсьніў абрад асьвячэньня крыжа, гэта вельмі сымбалічна, паколькі сьвяты Бенядыкт зьяўляецца заступнікам Еўропы.

Імшу ля крыжа рыма-каталіцкі ксёндз адслужыў па-польску, грэка-каталіцкі сьвятар а.Андрэй Крот, які саслужыў падчас Імшы, напрыканцы набажэнства сказаў кароткае слова да вяскоўцаў пра крыж па-беларуску, а праваслаўны бацюшка прамаўляў да вернікаў па-расейску – усіх іх вяскоўцы шчыра віталі і пляскалі ў далоні, дзякуючы за настаўленьні.

Адказваючы на пытаньне, як зьявілася ідэя ўсталяваць крыж, каваль Юрась Мацко адказаў: “У мяне даўно ўжо была такая думка – дужа тут месца файнае. Ды й жывём мы ўсе тут побач адзін аднаго: каталікі, праваслаўныя, а я і мая сям’я – уніяты. Думаю, што так і правільна, каб гэты крыж шанаваўся ўсімі”.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**







*• 27.09.2009. Урачыстасьці асьвячэньня крыжа ў в. Салацьце Гарадзенскага р-ну.*
*(Фота з Svaboda.org)*

# Паўналецьце гарадзенскай парафіі

***17 кастрычніка 2009 году грэка-каталіцкая парафія Маці Божай Фацімскай адзначыла сваё «паўналецьце», а таксама чарговыя ўгодкі Берасьцейскай царкоўнай Уніі.***

Грэка-каталіцкая парафія ў Горадні – адна з першых афіцыйна зарэгістраваных у органах улады парафіяў БГКЦ. 18 гадоў таму шмат намаганьняў для гэтага прыклаў а. Віктар Данілаў, які служыў тут яшчэ ў падпольлі з 1976 году.

Падчас урачыстасьцяў у Горадні прыміцыйную Літургію для мясцовых вернікаў адслужыў новы сьвятар БГКЦ а. Алесь Аўдзяюк. З ім саслужылі: гарадзенскі душпастыр а. Андрэй Крот, а. Алесь Шаўцоў з Полацку, які паходзіць з парафіі Маці Божай Фацімскай у Горадні, а. Ігар Кандрацьеў з Берасьця, а. Казімір Ляховіч і Апостальскі Візітатар БГКЦ архім. Сяргей Гаек. Урачыстая Літургія правілася ў капліцы айцоў рэдэмптарыстаў на Дзевятоўцы, дзе з ласкавай згоды братоў лацінскага абраду цяпер моляцца гарадзенскія грэка-католікі (іх уласны душпастырскі цэнтр з капліцай цяпер знаходзіцца ў стадыі рэканструкцыі).

На сваё сьвята гарадзенцы запрасілі грэка-католікаў з супольнасьці «Маран ата» з Берасьця, якія пазнаёмілі ўдзельнікаў сьвята з песьнямі з свайго дыску «Песьні духа вялікіх містыкаў Кармелю» і падчас братэрскай агапы-пачастунку падтрымлівалі сваімі сьпевамі радасны сьвяточны настрой.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**











# “Узгадаць перад Госпадам душы безыменных слугаў Божых”

***13 кастрычніка 2009 году ў ніжняй капліцы Чырвонага касьцёлу грэка-каталіцкія вернікі сабраліся на малітву за супакой душы невядомага слугі Божага, які спачываў у зьнішчанай крыпце, што знаходзілася ў старых фундаментах уніяцкага храма Сьвятога Духа ў Менску. Узгадваліся ў малітве і іншыя захаваныя там безыменныя асобы. Вернікаў перапаўняў боль з прычыны разбурэньня пахавальнай крыпты ў падмурках уніяцкага храму Сьвятога Духа ў Менску падчас будаўнічых прац на пляцы, дзе знаходзіўся гэты знакавы храм Менску.***

Засупакойную Літургію служылі менскія грэка-каталіцкія душпастыры а. Яўген Усошын і а. Пахом Кавалёў у прысутнасьці Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыта Сяргея (Гаека).

Пасьля Боскай Літургіі Архімандрыт Сяргей узначаліў паніхіду за ўсіх памёрлых, чые астанкі і косьці былі знойдзены ў падмурках базыльянскай царквы Сьвятога Духа.

“У малітве хочам аддаць Госпаду наш глыбокі боль з прычыны разбурэньня пахавальнай крыпты і прафанацыі парэштак захаванага там сьвятаслужыцеля”, – сказаў а. Яўген перад паніхідай.

Як вядома, на пачатку верасьня падчас працы коўш экскаватара прабіў невядомую крыпту (пахавальны склеп), не пазначаную ні на адным з планаў царквы. Былі выкліканыя сьпецыялісты з Інстытуту археалогіі НАН Беларусі, якія пачалі прафесійна раскопваць крыпту. Астанкі фундатараў царквы засталіся некранутымі, нягледзячы на нешчасьлівы лёс храму. Археолагамі былі выяўлены дзьве крыпты-пахаваньні. Адна з гэтых крыптаў, як можна меркаваць, мела ўнікальны характар і адносілася да тыпу так званых закрытых крыптаў. Паводле характару кладкі і археалагічнага слою, у якім знаходзіцца пахаваньне, можна прыблізна вызначыць ягоны час – гэта XVII стагоддзе.

8 кастрычніка 2009 году на месцы будаўніцтва была разбурана (разабраная) адна з дзьвюх крыптаў-пахаваньняў. У працэсе разбурэньня гэтай крыпты была таксама парушаная цэласнасьць пахаваньня, якое ў ёй знаходзілася. Рэшткі пахаваньня (абломкі драўлянай труны, захаваныя кавалкі вопраткі, чалавечыя косткі) былі зваленыя ў адну кучу. Паводле характару кавалкаў вопраткі, чалавек, пахаваны ў крыпце, быў каталіцкім сьвятаром усходняга абраду (грэка-католікам) ці каталіцкім манахам усходняга абраду. Гэта таксама можа быць першая ігуменьня манастыра базыльянак.

На сёньняшні дзень яшчэ захоўваецца другая крыпта. Падчас работ, як нам вядома, таксама была знойдзена вялікая колькасьць чалавечых парэшткаў, якія ў розны час былі пахаваныя або ўнутры царквы, або непасрэдна каля яе. Цяпер яны чакаюць свайго супачынку на месцы пахаваньня (паводле правілаў археалагічных раскопак яны могуць быць пахаваныя на месцы раскопак). У дадзены момант яны захоўваюцца ў памяшканьнях КУП “Менская спадчына”.

Тое, што адбылося, паводле царкоўных законаў можа кваліфікавацца як блюзьнерства. “Для вернікаў і для ўсіх цывілізаваных людзей парэшткі памерлых – гэта рэч сьвятая. Нашыя продкі, якія там пахаваныя, жыхары і дабрадзеі горада Менску, маюць права на пашану з боку ўсіх жыхароў. Грэка-каталіцкія вернікі чакалі, каб годна, з малітвай, пахаваць у адным з месцаў новых фундаментаў будоўлі сабраныя косьці. Мы чакалі таксама, згодна з абяцаньнямі працаўнікоў КУП “Менская спадчына”, на прафесійны перанос крыпты. На жаль, у мінулы чацьвер, 8 кастрычніка 2009 году, вечарам працаўнікі КУП “Менская спадчына” разьбілі крыпту і зьняважылі астанкі захаванага там манаха”, – дадаў з болем а. Яўген Усошын.

У нядзелю вечарам, 11 кастрычніка, Апостальскі Візітатар Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы Архімандрыт Сяргей (Гаек), у суправаджэньні віцэ-дэкана а. Яўгена Ўсошына, пайшоў паглядзець асабіста на месца раскопкаў. Там яны пабачылі па-варварску зьнішчаную (разьбітую) крыпту, раскіданыя часткі труны і косьці нябожчыка. Убачанае яны расцанілі як акт дзікага варварства, зьдзейсьнены над спадчынай грэка-каталіцкай (уніяцкай) Царквы, у цэнтры еўрапейскага гораду – сталіцы нашай Рэспублікі Беларусь, побач са сьвятымі месцамі братоў рыма-католікаў і праваслаўных.

12 кастрычніка 2009 году Апостальскі Візітатар БГКЦ Архімандрыт Сяргей (Гаек) накіраваў ліст выконваючаму абавязкі старшыні Менскага гарвыканкаму сп. Мікалаю Ладуцьку. “Жах і боль не дазваляе нам каментаваць гэты акт дзікага варварства”, – адзначыў у лісьце Архімандрыт Сяргей (Гаек). Ад імя вернікаў БГКЦ ён прасіў паўплываць на сітуацыю: “Зьвяртаемся з просьбай пасадзейнічаць, каб сьвятыя парэшткі нашых продкаў маглі быць ізноў, з пашанай і нашай малітвай, складзены на месцы, дзе яны былі першапачаткова захаванымі”.

“Мы, грэка-каталіцкія вернікі г. Менску, удзячныя дзяржаўным уладам і прадстаўнікам аддзелу па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў Менскага гарвыканкаму за падтрымку патрабаваньня кіраўніцтва нашай Царквы, каб крыпта была адбудаваная (рэканструяваная) ды каб сьвятыя парэшткі нашых продкаў маглі быць ізноў, з пашанай і нашай малітвай, складзены на месцы, дзе яны былі першапачаткова захаванымі”, – сказаў адзін з вернікаў – удзельнікаў малітвы 13 кастрычніка. А душпастыр менскіх грэка-католікаў а. Яўген Усошын дадаў: “Мы ўдзячныя шматлікім хрысьціянам розных канфесіяў за малітоўную і маральную падтрымку нашых патрабаваньняў”.

*Паводле Svjazep.org*

# Сьвята еднасьці ў Берасьці

***У суботу, 28 лістапада 2009 году, берасьцейская грэка-каталіцкая парафія згодна з сваёй шматгадовай традыцыяй, запрасіла ўсіх сваіх сяброў рыма-католікаў, пратэстантаў і праваслаўных на сваё парафіяльнае сьвята ў гонар апекуноў парафіі – родных братоў-апосталаў: сьв. Пятра, заступніка хрысьціянскага Захаду, і сьв. Андрэя, заступніка хрысьціянскага Ўсходу.***

У гэты сьвяточны дзень сваю першую (прыміцыйную) Боскую Літургію разам з беларускімі і ўкраінскімі сьвятарамі абодвух абрадаў урачыста адслужыў новы сьвятар Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы ераманах Антон Нікалаеў, які паходзіць з берасьцейскай парафіі. *(Гл. таксама фота на с. 20).*

На сьвята ў Берасьці прыехалі таксама госьці: грэка-каталіцкія манахі-рэдэмптарысты з Украіны на чале з протаігуменам іх Львоўскай Правінцыі а. Васілём Іванівым, а таксама музычны гурт семінарыстаў «Подых Духа» з Пінскай вышэйшай духоўнай каталіцкай семінарыі імя Т.Аквінскага. Пасьля ўрачыстай Літургіі яны выступілі з канцэртам-віншаваньнем. Былі таксама музычныя віншаваньні, танец і пантаніма ад нашых братоў з супольнасьцяў «Слова жыцьця» і «Спасение» з Берасьця і ад кобрыньскіх вернікаў з супольнасьці «Крыніца жыцьця». З парафіяльным сьвятам грэка-католікаў Берасьця павіншаваў і начальнік аддзелу па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў сп. Аляксандар Мурашкін, які прысутнічаў на сьвяце.

Ісус увесь час заклікае хрысьціянаў, «каб усе былі адно». І таму, ня гледзячы на канфесійныя падзелы, якія сёньня існуюць, хрысьціяне павінны нястомна шукаць шляхі і нагоды для ўзаемапазнаньня, братэрства і супрацоўніцтва, асабліва на мясцовым узроўні. Сваю хрысьціянскую еднасьць мы можам сьведчыць, будучы разам у малітве і на агапе – сумесным братэрскім пачастунку хрысьціянаў. І адно з такіх сьвятаў еднасьці, якое запомнілася многім удзельнікам, адбылося ў Берасьці.

# Евангелізацыйны канцэрт

## на плошчы Незалежнасьці ў Менску







© Ю.Галянюк.

***19 верасьня 2009 году вечарам, пасьля міжнароднай канферэнцыі “Сям’я – супольнасьць любові і жыцьця” у Чырвоным касьцёле (сьв. Сымона і Алены), адбыўся евангелізацыйны канцэрт-праслаўленьне на галоўнай плошчы нашай сталіцы, у самым сэрцы нашай Радзімы.***

Удзел у гэтым канцэрце ўзялі вернікі розных канфесіяў: рыма-каталікі, грэка-каталікі, праваслаўныя і пратэстанты, а таксама людзі розных нацыянальнасьцяў: беларусы, палякі, расейцы, украінцы і інш. Канцэрт-праслаўленьне зладзілі супольнасьць “Каштоўная перліна” з руху “Сьвятло-Жыцьцё” і грэка-каталіцкая супольнасьць з Берасьця “Маран ата”, з імі сьпявала таксама вядомая хрысьціянская сьпявачка Алеся Ўнукоўская.

Гэта была ня першая сумесная малітва і праслаўленьне гэтых двух супольнасьцяў, але ніхто і не спадзяваўся, што гэты канцэрт-праслаўленьне будзе такім маштабным. Планавалася як заўсёды – правесьці яго ўнутры храму, але Бог захацеў інакш і натхніў выйсьці на вуліцу і правесьці канцэрт на плошчы Незалежнасьці, на прыступках храму.

Алілуя! Ісус жыве!!! Так і адбылося! І гэта было цудоўна! На канцэрт сабралася вельмі шмат людзей – і вернікаў, і тых, хто пакуль ня верыць. На галоўнай плошчы сталіцы заўсёды вечарам шмат гуляе моладзі, якая вельмі зацікавілася такім незвычайным праслаўленьнем Бога. Падчас канцэрту было і абвяшчэньне Добрай Весткі, і супольная малітва-праслаўленьне, і розныя сьпевы, якія натоўп адразу падхопліваў і паўтараў, і, вядома, танцы. Ніхто ня змог стрымацца! Нягледзячы на тое, што адразу саромеліся і стараліся сябе стрымліваць. Пад канец танцавалі амаль усе!

Бог праз гэты канцэрт дакрануўся сэрца кожнага з нас і даў зразумець, што толькі з Ім мы знойдзем сапраўдную радасьць, супакой і сэнс жыцьця! Хочам падзякаваць Богу за гэты канцэрт, за сьпевакоў і ўдзельнікаў! Няхай Бог дабраславіць усіх і дапаможа як найчасьцей праводзіць такія канцэрты-малітвы праслаўленьня Госпада! Хвала Хрысту! Алілуя!

**Стэфанія МАНЬКО,** *г. Менск*

*• Берасьце. Сьвята парафіі і прымiцыйная служба а. Антона Нікалаева, CSsR.*

*(Фота Ю.Галянюк)*









*Заснаваная ў 1995 г.*
Царква
*грэка-каталіцкая газета*
*№ 4 (63), 2009*
17 сьнежня

**Адрас рэдакцыі:**
вул. Дворнікава, 63
224014, Берасьце (Брэст)
Беларусь
Тэл./факс (0162) 24-74-82
e-mail: bgkc_carkva@tut.by
*сайт: carkva-gazeta.org*

**Заснавальнік і выдавец:** грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў г. Берасьці
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 28.10.2008 г.
**Галоўны рэдактар:** а. Ігар КАНДРАЦЬЕЎ
**Царкоўны асістэнт:** а. Андрэй АБЛАМЕЙКА, STM
**Адказны рэдактар:** а. Андрэй КРОТ, STL
**Выпускны рэдактар:** Ігар БАРАНОЎСКІ
**Падпісана ў друк:** 17 сьнежня 2009 году, 19-45.
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасьв. № 02330/0131540 ад 30.04.04), вул. Мініна, 23-106, 220014, Менск. **Замова** № 140
**Аб’ём** 2,5 друк. арк. **Наклад** 2000 асобнікаў.

*НАШ РАХУНАК:*
*№ 3015220710013*
*у ЦБУ ЗАТ “Абсалют-банк” у г.Берасьці*
*МФО 153001898,*
*УНП 200558013*